PAŠAUKIMAS.
Baltgudžių visuomenės laikraštis.

# ПОКЛІЧ

## Беларуская грамадзкая часопісь.

№ 2 (10) ЛЮТЫ - САКАВІК 1927 г. КОЎНА.

Kaina 1 Lt.

Š. Neimano spaustuvė Kaune, Laisvės Alėja, 72, telef. Nr. 10-90.




# ьмест.

Цана нумару 1 літ.

# ПОКЛІЧ

выходзіць два разы ў месяц.

Падпіска: на мес. — 1 л. 75 ц.
на паўгода — 8 л. 50 ц.
За кардон — на 50 ц. у месяц даражэй.
Цана абветкам з разрахунку 1 страніца 40 літ.; на абкладцы ў два разы даражэй.
Падпіс. і абвесткі прымаюцца ў магазыне
B-vė „Knyga“ Laisvės al., 52.

№ 2 (10) ЛЮТЫ—САКАВІК 1927 г. Коўна.

*Сьціснула гора дыханьне ў народзе,*
*Гора усюды пануе —*
*Хваляй шырокай разлілась як мора,*
*Родны наш край затапіла...*
*Божа, ці зможам грамадзкае гора,*
*Божа, ці хопіць нам сілы?..*

*М. Багдановіч.*

Абшары Зах. Беларусі — гэтыя вароты паміж Захадам і Ўсходам — на працягу вякоў зьяўляюцца тэрэнам рознахарактарнай барацьбы. Зруйнованы апошняй вайной, раскіданы ў бежэнстве, амаль па ўсёй Расеі, беларускі народ не здолеў абараніць свой сувэрэнітэт,—Зах. Беларусь апынулася пад Польскай акупацыяй.

Зьвярнуўшыся ў цяжкіх варунках на Бацькаўшчыну, разбураны народ стаў памалу зьбіраць свае сілы; памалу справа адраджэньня пачала захопліваць шырокія колы беларускага грамадзянства. — Беларус стаў дамагацца уцелаішчаньня свайго права жыць пад сонцам.

Працэсу нацыянальнага ўсьведамленьня і хуткага росту арганізацый вымагалі: нестрыманы наскок польскага шавінізму,

імкнуўшагася задушыць усякую праяву беларускага руху і дзікія бесчынствы польскай адміністрацыі, зьневажаўшай агульна чалавечыя як нацыянальна-культурныя, так і сацыяльна-палітычныя правы беларускага жыхарства. Беларускі народ празрэў.—Ён убачыў свайго запраўднага ворага, падрыхтоўваючага не толька дэнацыяналізацыю, а фізычнае зніштажэньне — сьмерць падняволенаму жыхарству. Гэтым безлітасным ворагам беларусоў зьявіўся крэсавы адміністратар пан, які не жадае ўступіць мейсцоваму жыхарству права быць гаспадаром у Краю. Беларускаму грамадзянству сталі ясны імкненьі палякаў, ясна, плянова праводзімая імі, сацыяльна-палітычная барацьба, скіраваная супроць беларусоў. Апошнія зразумеўшы згубу, якую нясе беларусам польскае панаваньне,— пачалі шукаць паратунку і, перш за ўсё, арганізоўвацца.

Польскія, навет ўмяркаваныя, партыі Вызваленьне, П. П. С., разлічваўшыя на падтрыманьне масаў, хутка заўважылі, што яны пачалі траціць свае ўплывы на беларусоў. Супроць апошніх пачалось адкрытае змаганьне. Да ізлюбленных польскіх мэтадаў барацьбы — ашуканства, інсінуацый, нагавораў подкупаў, правакацый... прыбавіўся новы — масавы тэррар супроць беларусоў. Агенты дэфензывы, праводзячы катаваньне беларускага жыхарства, не затрымаліся навет перад тым, каб скрывавіць (прыбыўшых на сход) беларускіх паслоў Валошына і Мятлу; а іх шэф міністр Мэйшторіч даў загад заарыштаваць увесь склад Сялянскай—Работніцкай Грамады Сойму і правесьці на ўсём абшары Зах. Беларусі павальныя вобыскі і арышты найбольш выдатных сяброў Грамады, якую арганізацыю, як больш моцную (налічваючую к моманту арыштаў 80,000 сяброў і 700 правіныяльных адзелаў *), палякі парашылі разграміць у першую чаргу.

Разам з гэтым зроблены арышты як у Цэнтральнай Управе, так і ў аддзелах на правінцыі Т-ва Беларускай Школы.

Заарыштаваны ўвесь склад Праўленьня і служачых Беларускага Каапэрацыйнага Банку і яго аддзелаў — у Глы-

---

*) К 1-му сакавіку г. г. лік сяброў Сялянска-Работніцкай Грамады перавысіў за 100,000.

бокім і Пінску. Дакумэнты Банку, ў тым ліку, ітэрміновыя вэксалі скanфіскаваны. *)

У справе арыштаў міністр Мэйштовіч злажыў ніжэйпададзены каммунікат:

„Вядомыя арганізацыі, якія працуюць ужо доўгі час на абшары Польскай Дзяржавы, выяўляюць работу, на якую выдаткі зусім відавочна пераходзяць магчымасьць пакрываць з уласных даходаў тых арганізацыяў. Гойнае аплачваньне інструктараў, агітатараў, агентаў; выдаваньне цэлага сьцягу брашураў, адозваў і лістоў дарма рассыланых, урэшче пеpaкідваньне вялізарнымі грашовымі сумамі, дзеленымі ў форме беззваротных пазык з мэтай зьяднаньня сабе прыхільнікаў, сьведчыць бяссумліву аб тым, што работу гэтых арганізацыяў аплачваюць чужыя дзейнікі.

На чале гэтых арганізацыяў сталі некаторыя паслы ў Сойм, якія тымі грашмі, паходзячымі з чужых крыніц, шырокай жменяй распараджаліся.

Урад такой работы, скіраванай на шкоду Польскай Дзяржавы і роўнай здрадзе стану, не можа далей таляраваць (зносіць). Не можа ён і не хоча дапушчаць да пашырэньня сярод супакойнай люднасьці замуту і бяскарнага тварэньня праступных плянаў выкліку, з падвучаньня і па загаду чужых дзейнікаў, якіх-небудзь забурэньняў у Дзяржаве. Дзеля гэтага засталіся арыштаванымі паслы: Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Валошын і агітатары, якія стаялі на чале арганізацыяў аплачываных з чужых грошай. Перасьцерагаецца, што прыналежнасьць да гэтых арганізацыяў, на чале якіх стаялі арыштаваныя паслы, будзе прасьледавацца са ўсей рашучасьцю, як за работу на шкоду Дзяржавы.“

Вільня, 15 студзеня 1927 г.

Каб апраўдаць свае надужыцьці над беларускімі дэпутатамі, Мэйштовіч у сваёй заяве на імя Маршалка Сойму піша, што *дэпутаты былі схвачаны на гарачым учынку*...

Не зважаючы на тое, што камунікат не прыводзіць ні якіх канкрэнтных фактаў, даючых права арышту дэпутатаў

---

*) Засталася не заарыштаванай Рада Банку, якая і прадаўжае працу ў Банку. К моманту арышту лік сяброў Каапэрацыйнага Банку быў—900 чалавек, к 1-му сакавіку г. г. ужо перавысіў 1000 чалавек.

і навет не адпаведае праўдзе (паслы былі заарыштаваны не на „гарчым учынку“, а ў часе сну, на сваіх кватэрах),—Сойм выдаў дэпутатаў, пазбавіўшы іх, нададзенай Канстытуцыяй гарантыі—недатыкальнасьці дэпутата.

Акупаванае Польшчай беларускае жыхарства настолькі зьнішчана і аграбавана, што па думцы Мэйштовіча 80,000 партыйна арганізаваных грамадзян нязьдольны аплаціць выдаткі па сваёй арганізацыі, нечага сказаць: „добрую“ атэстацыю дае Мэйштовіч польскай колёнізацыйнай уладзе!

Абшарнік Мэйштовіч завяршыў сьвята крэсавых паноў, якое спраўлялі яны разам з Пілсудзкім у Нясьвіжу — Ўрад „аздараўленьня Польшчы“ даў магчымасьць Мэйштовічу выканаць як клясавую, так і нацыянальную помсту абшарніка і польскага шавініста над прэдстаўнікамі беларускага працоўнага жыхарства.

Распаўсюджваемыя (ў зьвязку з арыштамі) часткаю польскай прэсы і прыслужнікам польскага імпэрыялізму—рыжскім „Сегодня“ інфармацыі аб тым, што конта Грамады складае 100,000, даляраў, што Грамада мае 700 баевых груп („Сегодня № 13), не адпаведае дзейснасьці і варта ізобрэтацельнасьці польскай дэфензывы, прыдумваючай рожныя інсінуацыі для компромэтацыі беларускага руху, каб гэткім нягодным спосабам апраўдаваць польскае злачынства над беларускім жыхарствам.— Па афіцыяльнаму сьведчаньню Нагляднай Рады Беларускага Каапэратыўнага Банку (ад 17/I—27 г.) конта Грамады за ўвесь час яе існаваньня складае каля 9,000 польскіх злотых, а сальдо к моманту апошніх арыштаў—36 злотых.

Роўным чынам не дасягаюць сваёй мэты і спробы дыскрэдытаваць Грамаду і пазбавіць яе павагі ў вачох шырокіх беларускіх масаў.

На Грамаду, афяраваўшую сябе на рэальную працу па абароне правоў і па ўздыму сьвядомасьці, культуры і дабрабыту беларускага жыхарства, акрэсьлянага гатунку польская і ёй угодніцкая прэса робіць закіды і „абвінавачваюць“ (!) Грамаду, што яна зьняла з чарговай павесткі сваіх палітычных дамаганьняў пытаньне аб беларускай незалежнасьці, і, такім чынам, нібы адраклася ад правоў беларускага народу на самавызначэньне.—Гэткія закіды Грамадзе—не больш

як спроба нягоднымі сродкамі справакаваць строга і прадумана легальную, працуючую ў рамках свайго статуту і канстытуцыйных гарантый, актыўную беларускую арганізацыю; такія закіды—не больш як спекуляцыя справай беларускага адраджэньня сярод слаба паінфармаваных, альбо несьвядомых элемэнтаў.

Міма вышэйпададзеных інсінуацый польскай прэсы можна было-б прайсьці моўчкам, калі-б польскія палітыкі не выкарыстоўвалі іх для асягненьня сваіх імпэрыялістычных шавіністычных мэтаў.

Абвінаваціўшы беларусоў у бальшавізме, Польшча (не гледзячы на ўсю беспадстаўнасьць гэтага абвінавачаньня):

1) дастала ад Вялікіх Дзяржаваў згоду захапіць беларускія абшары, гдзе (паводле польскай аб'ектывнай да-ваеннай статыстыкі E. Romer, Jgnacy, Weinfeld, „Rocznik Polski“ Tablice statystyczne, Krakow 1919 г. Выданьне Польскай Акадэміі Навук) польскі элемент складае каля 4—5%;

2) трымала беларускіх бежанцаў па канцантрацыйных лагерах, гдзе яны, апынуўшыся без уселякага санітарнага дагляду, гіблі тысячамі ад тыфусу і іншых заразных хваробаў;

3) Польшча старэнна пхала на беларускія абшары сваіх каляністаў-асаднікаў і давала ім, апроч зямлі, грашовую дапамогу (Так, у 1921 г. адпушчана дапамогі асаднікам 3 міліарды марак

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1922 г. | „ | „ | „ | 12 | „ |
| 1923 г. | „ | „ | „ | 50 | „ |
| 1924 г. | „ | „ | „ | 50 | міліёнаў злотаў |
| 1925 г. | „ | „ | „ | 50 | „) |

і ўселякія льготы, а разам з гэтым прымушала, зьвярнуўшыхся на Бацькаўшчыну беларускіх, кінутых на волю судзьбы, бежанцаў, вазіць лес на пабудоўку ўсадзьбаў польскіх калёністаў.

Усяго да 1925 г. уключна асела 12,000 сем'яў, з якіх да гэтага часу каля 50% пражылі дапамогу, кінулі свае надзелы і зьвярнуліся назад у Польшу; каля 25% пабудаваліся, але самі не працуюць і здаюць зямлю ў арэнду, альбо на палову мейсцоваму беларускаму жыхарству; рэшта 25% працуюць на зямлі самі і дапамагаюць польскай уладзе зьдзекавацца над беларускім сялянствам. Беларускія-ж бежанцы

не атрымоўваюць ніякай дапамогі на адбудову і значны лік іх да гэтага часу змушаны юціца па акопах і зямлянках, застаўшыхся пасьля вайны. Ў Польшчы хапае сумленьня даводзіць свае бесчынствы да таго, што перад вачмі абяздоленых людзей будуюць будкі для старажавых сабак, на што з дзяржаўнага кошту затрачана некалькі сот тысяч злотаў. *)

4) зачыніла, не гледзячы на пратэсты беларускага жыхарства, каля 600 беларускіх школ і замест іх адчыніла школы польскія, забраўшы дзеля гэтага школьныя будункі і інвентар ад беларускіх школ.

Цяпер няма ні аднэй урадовай беларускай пач. школы. На кошт самаўрадаў істнуюць толькі дзьве пачат. школы — адна ў Горадні, другая ў Вільні. Не гледзячы на перашкоды, якія робяцца польскай уладай пры складаньні прыгавараў аб адчыненьні беларускіх пачаткавых школ, такіх прыгавараў складзена звыш 4000, копіі якіх знайходзяцца ў Белар. Пасольскім Клюбе.

Беларускіх вучыцялёў - частку гнояць па турмах, а частку (пасьля Кракаўскіх курсаў) параскідалі па школах цэнтральнай Польшчы.

5) зьліквідавала сетку беларускіх каапэратываў у Горадзеншчыне.

6) зьліквідавала шэраг беларускіх нацыянальна-культурных і палітычных арганізацый; павыселяла беларусоў з абшараў Бацькаўшчыны, ў тым ліку, і трох беларускіх паслоў Варшаўскага Сойму—Каліноўскага, Якавюка і Кахановіча; арыштавала шэраг беларускіх працаўнікоў у справе адраджэньня, ў тым ліку, пасла Сойму Барана, атпраўленага на чатыры гады катаргі.

Канфіскацыя і зачыненые беларускіх часопісей зрабілася звычайным зьявішчам; прапушчаныя цанзурай часопісі і карэспандэнцыі між беларускімі арганізацыямі затрымліваюцца на поштах і не даходзяць нармальным парадкам да жыхарства.

7) сыстэматычна руйнуе беларускі дабрабыт і нішчыць прыродныя беларускія багацьці, запаведныя пушчы і лясы...

---

*) Цікавая прамова ў гэтай справе была сказана пры зацьверджаньні бюджэту, цяпер заарыштаваным дэпутатам Тарашкевічам, ў Сойме.

8) чыняцца навет перашкоды ў рэлігійнай справе: з 175 правасл. царквей Віленшчыны зачынена 60, з 148 Горадзеншчыны зачынена 75. Каб трымаць духавенства ў сваіх руках, польская ўлада не дае ім права грамадзянства: з агульнага ліку 188сьвяшчэнікаў Віленшчыны і Горадзеншчыны маюць права грамадзянства толькі 11.

Чыняцца сыстэматычныя перашкоды беларускім ксендзам: іх альбо лішаюць парафіі (кс. Абрантовіч), альбо пераводзяць у другія прыходы пад „апеку“ польскіх ксендзоў (кс. Шутовіч), а некаторых навет садзяць у турмы (Петроўскі, Гадлеўскі).

Усе гэтыя злачынствы над беларусамі, зьневажаньне іх самых элемэнтарных нацыянальна-культурных правоў Польшча імкнецца апраўдаць перад сьветам беспадстаўным „абвінавачаньнем“ беларусоў у бальшавізме. Польшча ахвотна змоўчвае, што ў сваім змаганьні з бальшавікамі яна выкарыстоўвала некаторыя беларускія арганізацыі і, ў тым ліку, Беларускую Найвышэйшую Раду, Беларускую Вайсковую Каміссію, ў якіх арганізацыях бралі ўдзел і цяпер заарыштаваныя Тарашкевіч, Рак. Міхайлоўскі іншыя. Польшча ахвотна забывае, што ў найбольш крытычны для бальшавікоў момант яна сама (дзякуючы перагаворам Мархлеўскага з Пілсудзкім) дала ім перадышку.

Вышэйпададзеных фактаў даволі, каб пераканацца, што прычына сыстэматычных надужыцьцяў і арыштаў над беларусамі знайходзіцца не ў беспадстаўна наквідваемым беларусам бальшавізме, а ў зьвярыным шавінізме і імпэрыялізме сучасных прэдстаўнікоў польскай дзяржаўнасьці. — Апошнімі днямі частка польскай прэсы дагаварывалася, ў сваіх клеветніцкіх выпадах на беларусоў, да таго, што прапануе ўсю беларускую меншасьць у Польшчы зьвясьці на становішча нелегальнай меншасьці ў Польшчы.

Што канкрэтна гэта прапазыцыя мусіць значыць? Ці не жадаюць польскія шавіністы пасадзіць усё беларускае жыхарства ў турму? Ці можа дадумаліся арганізаваць якую-колечы „варфаламеўскую ноч“, каб пагалоўна зьнішчыць беларусоў?

Вось які канкрэнты сэнс пачынаюць укладаць палякі ў пекны лёзунг: „роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі“!

Мэйштовіч не жадае мірыцца з тым, што калісь-ці падлеглае ім, быўшае пад іх прыгонам, жыхарства пачынае арганізавацца і бараніць свае, нададзеныя эпохой, правы.

Мэйштовічы не жадаюць траціць, аджыўшыя свой век, прывілеі, не жадаюць бачыць новых прэтэндэнтаў на права прэдстаўніцтваваць ад імя мейсцовага жыхарства, захопленага і падпарадкаванага польскаму панству, Краю.

Першы раз у 1922 г. Мейштовіч расправіўся са сваімі канкурэнтамі на прэдстаўніцтва — выслаў з Віленшчыны ў Літву найбольш выдатных літоўскіх і беларускіх дзеячоў. Цяпер Мэйштовіч, карыстаючыся маючымся ў яго распараджаньні, дзяржаўным апаратам, парашыў разграміць сваіх канкурэнтаў у набліжаючыхся выбарах у Польскі Сойм.

Беспасрэдным повадам для разгрому беларускіх арганізацый паслужыла неўдача перагавораў Пілсудскага з беларусамі ў Вільні. Апошнія (расчараваўшыся не раз на практыцы ў шчырасьці польскіх пасулаў і не жадаючы Менскім братом сваёй долі пад Польскай акупацыяй) адмовіліся браць удзел для зьдзйсьненьня *мегаламанскіх імпэрыялістычных мрыяў* Польшчы ў форме прапанованага Пілсудзкім фэдарацыйнага аб'еднаньня. — Беларусы не пажадалі *праліцьця братняй крыві;* не пажадалі сваімі рукамі руйнаваць тое, што з вялікімі высілкамі асягнуў у беларускай нацыянальнай справе сучасны Менск.

Беларусы жадаюць міру і ўцелаішчаньня сваіх агульна чалавечых правоў. Беларусы разумеюць, што Польшча, бяручыся за „аб'еднаньне“ Беларусі, гатуе апошняй „данайскі дар“ — апроч старога абшарніка яна рыхтуецца пасадзіць яшчэ новае „дабро“—каланіста-асадніка.

Беларусы здолелі патрэбы справы свайго нацыянальнага адраджэньня палагодзіць з тым, што дала Рэвалюцыя; становішча пануючай клясы ў дзяржаве ў Радавай Беларусі занялі работніцка-сялянскія элемэнты, складаючыяся ў Краю на 75—80% з беларусоў.

Склаўшаяся сітуацыя адпаведае жаданьням беларускага жыхарства, не маючага іншых рэальных шляхоў для ўцелаішчаньня справы свайго пацянальна-дзяржаўнага адраджэньня.

Цяперака беларусы імкнуцца дасягнуць справедлівага размежаваньня і мірнага сужыцьця і супрацоўніцтва са сваімі суседзямі..

Палівацъ жа свае абшары крывёй для больш буйнага росквіту польскага асадніцтва ахвотнікаў не знойдзецца сярод беларусоў.

Польскія мрыі—быць павадыром-верхаводам сярод славянства — беспадстаўны. Па-перш, таму, што Польшча быць такім павадырам не здольна, не ўмее. Яе падыход да славянскіх і іншых народаў заўсёды грунтуецца на тым, каб ад уселякага супрацоўніцтва не толька забраць сабе „львіную долю“, а навет забраць і тое, што самі маюць яе супрацоўнікі. Па-другое, Польшча не здатна быць павадыром суседзяў, бо не можа прад'явіць ніякай карысьці, ні якіх пажаданых перспэктыў для тых народаў, вярхаводзіць якімі Польшча жадала-б.

Польшча заўсёды шукае сабе падсобнікаў дзеля таго, каб высмактаць з іх і каб разам з гэтым павясьці, як той „моська“, змаганьне з дзяржаўна-гаспадарчымі арганізмамі неўпараўнаньні мацнейшымі за яе. Падпарадкоўваючы сабе іншыя народы, Польшча, як тая „рапуга“, хоча быць падобнай да „слана“. Гэтая тактыка прыводзіць да таго, што Польшча як у гістарычнай мінуўшчыне так і ў сучаснасьці падобна да прыдарожніка—бандыта, які чакае моманту, каб прыдушыць каго-колечы, хто пад тым, або іншым варункам сплашаў. Ёсьць тварэньні, якія прызвычаіліся карміцца падалью і ў гэткую „падаль“, (але не раўнапраўныя з ёю нацыянальна дзяржаўная арганізмы), Польшча жадае абярнуць суседнія народы.

Гэткія павадкі Польшчы даўно пара было-б кінуць.

Польшча не настолько багата і моцна, каб камандавацьпанаваць, але не настолька бедна,каб жабраваць; прынамсі, беларусам даць Польшчы нечага.

Праца Грамады – гэта самаабарона ад непамернага польскага імпэрялізму і шавінізму і тое, што амаль 20% беларускага дарослага (акупаванага Польшчай) жыхарства запісалася ў партыю Сялянска-Работніцкай Грамады зьяўляцца яскравым доказам таго, што чыннасьць Грамады не ёсьць,

навеяная пад уплывам якойсь-та замежнай агітацыіі (як кажа Мэйштовіч), штучная справа, а што Грамада адпаведае патрэбам масаў, акупаванага Польшчай абяздоленага беларускага жыхарства.

Ў сучасны момант па ўсёй Зах. Беларусі сярод беларускага жыхарства распачаўся стыхыйны збор подпісаў пад пэтыцыямі і трэбаваньнямі аб звальненьні беларускіх дэпутатаў. Цэлы шэраг гэткіх пэтыцый за подпісамі тысячаў сялян Навагрудчыны ўжо пасланы ў Варшаву на імя прэзыдэнта і міністра ўнутраных спраў. Пэтыцыі складаюцца адначасна ў 2-х экзэмплярах, каб адзін агалосіць у друку і захаваць яго, як доказ таго, што сяляне прасілі аб звальнені сваіх упаўнаважаных прэдстаўнікоў. Гэта зьяўляецца другім доказам стычнасьці Грамады з беларускім жыхарствам.

Масавая дэманстрацыі — ў Вільні, Косаве, Слоніме, Скідэлі, Валожыне, Маладэчне, Лебедзеве, Вілейцы, Ашмяне, Галавачах, Маслянах, Шчучыне, Жалудку і інш., чым (не гледзячы на раз'юшаны польскі тэррар) беларускае як местовае, так і вясковае жыхарства адказала на арышты сваіх павадыроў — зьяўляюцца трецьцім доказам, што **Грамада рабіла беларускую народную справу.**

Пралітая акупантамі кроў беларускіх дэманстрантаў у Косаве (4 забітых і 6 раненых), у Скідэлі (1 штык. раненьне) у Слоніме (15 штык. раненьняў) і смертнае катаваньне белар. жыхарства і ў інш. мейсцовасьцях ляжа незмываемым пятном пазору на ўваскросшую, „зьнятую з крыжа“ Польшчу.

За годы свайго панаваньня над Зах. Беларусьсю польская акупацыйная ўлада сыстэматычна глумілася над правамі беларускага жыхарства.

Польшча не толька не аказывала якой-колечы дапамогі абяздоленым усесьветнай вайной беларусам; наадварот—рабіла ўселякія перашкоды ў справе іх самаарганізацыі—грамадзкай самадапамогі.

Польшча зьневажала самыя істотныя правы белар уса— права на школу, права на працу і навет права на вольнае рэлігійнае вызнаньне, **Польшча не выконвае сваіх абавязкаў—ставіцца не лёяльна да беларускага народу і да яго**

**як культурна гаспадарчых, так і сацыяльна-палітычных правоў, замацованых прынятымі Польшчай умовамі.**

*Польтча з якімсьці бахвальствам правацыруе канфлікт, імкнучыся распаўсюдзіць сваю ўладу на рэшту беларускіх зямель і ўскінуць беларускаму народу новае ярмо, новыя цяжары, новую нядолю...*

Беларускае сэрца, гдзе-б яно ні знайходзілася, трэпетна бьецца за долю сваіх братоў і горача вітае іх чыннасьць у нероўным змаганьню дзеля абароны агульна чалавечых правоў пакрыўджанага беларускага народу.

Трымайцеся, сябры! Разам з Вамі працуе сучасная эпоха. Вам спачувае ўсё лёпшае і гуманнае ў радох чалавецтва.

*А. Пуцята.*

---

# Дэкларацыя Кабінэту Міністраў,

**прачытаная ў Сойме Старшынёю Ўраду і Міністрам Замежных Спраў праф. ВОЛЬДЕМАРАСАМ 25 лютга 1927 г.**

(скарочана)

## Замежная палітыка.

Усе літоўскія партыі, ад самых правых да самых левых, аднолькава разумеюць патрэбы замежнай палітыкі. Гэтых патрэб дзьве:

*1) Літва павінна быць незалежна і са сталіцаю Вільня,*

*2) Літва не можа ўвайсьці ні ў якую асабліва блізкую сувязь ні з аднэй з вялікіх суседніх дзяржаваў.*

Першая частка гэтай праграмы не знаходзіць сур'ёзнага адпору навет заграніцай, хоць там і істнуе погляд, што Літва можа быць самастойнаю дзяржаваю, можа мець сталіцу Вільню, але ў такім выпадку яна павінна падыйсьці бліжэй да якога-небудзь са сваіх трох мацнейшых суседзяў.

У часы ўсесьветнай вайны, калі Літва была ў руках немцаў, Нямеччына трэбавала, каб Літва больш блізкімі вузамі—палітычнымі і эканамічнымі—зьвязалася-б з ею.

Нямеччына згаждалася пастольку прызнаць самастойную Літву, паскольку апошняя зьвязалася-б з ею паказанным чынам, але адносна сталіцы Вільні ўжо пачалі падымацца спрэчкі. Прызнаныя ў 1916 г. немцамі, палякі ўжо ў 1918 г. пачынаюць перагаварывацца з імі, каб немцы прызналі Вільню за імі. Пасьля разрухі ў Нямеччыне палякі пробавалі захапіць усю Літву аружжам ў 1918 і 1919 г. і дзеля таго, што ім гэта не ўдалося, яны былі задаволены захватам Вільні і Горадні. З другога боку палякі, выкарыстоўваючы становішча ў Нямеччыне, заўсёды трубілі ў заходняй Эуропе, што ўлады ў Літве не літоўскія, а пастаўлены немцамі і трымаюцца толькі дзякуючы немцам; па выхадзе нямецкіх акупантаў гэта ўлада разваліцца. Прапаганда палякоў зрабіла літоўцам вялікую шкоду. Палякі ўсімі мажлівымі сродкамі пярэчылі прызнаньню Літвы дэ факто і дэ юрэ.

Інакш склаліся і разьвіваліся адносіны з расейцамі. Калі там у 1917 г. уладу захапілі камуністы, дык яны, хоць і прызналі тэорытычна, што кожная нацыя можа выйсьці з-пад сувэрэнітэту Расеі, абвясьціўшы сябе незалежнай, тым не меньш практычна прызналі права карыстацца гэтым толька за адным пралетарыятам. Адгэтуль і выходзіць іх барацьба з другімі, асабліва невялікімі нацыямі, калі яны не абвесьцілі сябе радавымі рэспублікамі.

Атрымаўшы падпору з Захаду, гэтыя дзяржавы аружжам баранілі сваю незалежнасьць. Такім чынам засталіся незалежнымі ўсе прыбалтыцкія дзяржавы — Фінляндзія, Эстонія, Латвія і Літва.

Немцы, палякі і расейцы—гэта здаўна нам вядомыя па гісторыі Літвы нацыі, з якімі мы мелі многа дачыненьняў як варожых, так і дружэскіх.

Вялікія дзяржавы заўважылі, што фронт супроць бальшавікоў не зьяўляецца адзіным пры наліччы невырашанай нашай спрэчкі з палякамі і навет запраўдных вайсковых учынкаў у 1919 і 1920 г. г. Апроч таго, на Захадзе не прэдстаўлялася другога вырашэньня спрэчкі, як толькі сувязь Літвы з Польшчай вядомага роду палітычнымі дагаворамі. Расеўска-польская вайна ў 1920 г. паказала, што *літоўцам цяжка застацца нейтральнымі, калі Вільня не ў іх руках.*

Калі ў ліпені 1920 г. літоўцы пайшлі на Вільню (пасьля выхаду палякоў), то яны ішлі не на падмогу бальшавікам, а толькі выручаць сваю старую сталіцу.

Далей праф. Вольдемарас гаворыць аб праэкце Гіманса, які Вільню аддаваў Літве, а за гэтае ўсю Літву — Польшчы. Уся Ліга Нацый адобрыла гэты праэкт, але літоўскае грамадзянства, правідлова разумеючы пагрозу, рашуча яго асудзіла і адкінула.

Роўным чынам адкінуты былі, — кажа Старшыня Ўраду праф. Вольдемарас, падрабязна застанаўліваючыся на выніках Капенгагенскіх і Луганскіх перагавораў, — і ўсе ваколічныя шляхі, якімі замежныя дзяржавы падыходзілі да вырашэньня літоўска-польскай спрэчкі.

На чым жа мы больш усяго абаснуёмся?

Ці будзе наша палітыка русафільская, нямецкафільская, англафільская альбо якая-небудзь другая?

Мы адказваем: Мы можам вясьці толькі літоўскую палітыку і ніякой другой. Літоўская-ж палітыка выяўляецца запатрабаваньнямі: *незалежная Літва са сталіцаю Вільня і ніякай асабліва блізкай палітычнай і эканамічнай сувязі з мацнейшымі суседзямі.*

З замежных дзяржаваў *будуць дружаственнымі Літве, якія прызнаюць і дапамогуць нам праводзіць у жыцьцё гэтую праграму.*

Ці ёсьць які-небудзь спакойны шлях выпаўніць гэтую праграму?

Я прадкрэсьлю, — кажа праф. Вольдемарас, — што мы шукаем мірнага шляху для яе выпаўненьня. Сучасны Ўрад з першага дню прыняцьця ўлады ў свае рукі паставіў сабе мэтаю, як стражайшы абавязак, цадтрымліваць мір і не спрыяць узнікнавеньню эўрапейскай вайны, за якую адпаведнасьць лягла-б на Літву.

Дзеля таго, што ў друку і неафіцыяльных гутарках прамаўляюцца, што, пры правядзеньні ў жыцьцё ўсходняй палітыкі ўмовы ў Локарно, Літва павінна быць падзелена, дык першы абавязак Ўраду ўзброіцца як мага мацней, каб усім было-б відаць, што літоўцы хутчэй памруць, але не

аддадуць сябе ў няволю, ўсё роўна адкуль-бы яна ні шла— з Усходу, з Захаду, ці з Паўдня. (Воплескі справа).

Хто гаворыць аб вырашэньні буйных усесьветных пытанняў, як напрыкл. Вільня не можа ждаць, каб гэтае рашэньне прайшло так хутка. Вырашаючы яго спакойным шляхам, трэба было-б арганізаваць на Ўсходзе свае Локарно, гдзе ўдзельнічалі-б усе вялікія і малыя дзяржавы.

Але,—кажа праф. Вольдемарас, — апрыч неўхільнага пытаньня аб кампэнсацыях, вельмі цяжкага для вырашэньня— ў гэткую працу не можна сягоньня ўцягнуць усе зацікаўленыя вялікія дзяржавы. Калі Літва не хоча зблізіцца ні з аднэй вялікаю дзяржаваю, то ёй застаецца адзін шлях—быць у добрых адносінах са ўсімі суседзямі, інакш кажучы *ёй трэба быць нейтральнай.* У Маскоўскай умове ад 1920 г. напісана, што калі-б вялікія дзяржавы прызналі і гарантавалі заўсёдашнюю нейтралізацыю Літвы, Расея прызнае яго загадзя і абавязываецца ўдзельнічаць ў яе гарантыйнасьці (арт. V).

Устанаўленьнем спецыяльнага міжнароднага рэжыму для гэтага фронту пагроза вайны была-б адгэтуль зусім выключана. Палякі пав нны былі-б вярнуць Літве Вільню і Горадню без уселякіх компэнсацый.

Гістарычна—гэта спакон-веку літоўскія краіны. Тое самае трэба сказаць і аб іх нацыянальнасьці.

Штоб палякі ні гаварылі, *яны ўсё роўна заўсёды былі і будуць меншасьцю ў гэтых краінах.*

Мы сьвята верым, што акупаваная частка Літвы зьвернецца да Незалежнай Літвы і прыдзе час, калі ў крэпасьці Гэдыміна будзе развевацца штандарНезалежнай Літвы Падгатаўляючыся да гэтага дню, *мы не прапусьцім ні аднае магчымасьці, якая нас вела-б да канчаткавай мэты.*

*Дзеля гэтага, калі было-б патрэбна, мы не будзем адхільвацца навет ад перагавораў з Польшчай, калі гэтыя перагаворы будуцьісьці па тым пытаньням, якія дапамогуць рэалізацыі нашай праграмы.*

Ўрад злажыў толькі самыя значныя рысы замежнай палітыкі, дзеля гэтага яму няма патрэбы ўспамінаць аб

заканчэньні ўмовы адносна гандлёвага дагавору з расейцамі, альбо-ж перагавораў з немцамі, па цэламу шэрагу пытаньняў. Усе гэтыя пытаньні і масу другіх Ўрад прэдпалагае з посьпехам закончыць, але гэта для яго толькі пытаньні штодзеннага жыцьця, аб якіх больш падхадзяча гаварыць у другім мейсцы.

## Эканамічная і фінансавая палітыка.

Многа пішуць і гавораць ужо даўно аб цяжкім эканамічным становішчы Літвы. Не можна адмаўляцца, што становішча запраўды цяжкое. Больш усяго цяжару ў нашай сельска-гаспадарчай вытварчасьці і ў галіне крэдыту. Ўзмацненьня нашай гаспадаркі Ўрад чакае ў першую чаргу ад падняцьця сельска-гаспадарчай вытварчасьці. Больш значная і жыцьцёвая неабходнасьць—парцаляваацца на калёніі.

Наша эміграцыя — прыкмета вельмі сур'ёзнага страху, які Літве можа пагражаць, калі мы ў сваім эканамічным жыцьцю не пашырымся і не ўпарадкуемся. Каласальная неабходнасьць, каб лік жыхароў краю значна павялічыўся-б. Эміграцыя з Літвы—прыкмета сур'ёзнай хваробы.

Наступную значную рану нашага краю знаходзім у галіне крэдыту. Ўраду прыдзецца сур'ёзна паклапаціцца заснаваньнем у Літве аднэй (здавальняючы моцнай) камерцыйнай крэдытнай установы, ўпарадкаваўшы, а па магчымасьці і ўгаварыўшы аб'еднацца ў адно суцэльнае нашы банкі.

Амерыканскім літоўцам будуць предастаўлены законам правы набываць землі ў Літве. Лік нашых консульстваў ў Амэрыцы неабходна павялічыць і пашырыць іх функцыі. Аднаму з нашых вялікшых банкаў, магчыма, што і Літоўскаму Банку, прыдзецца мець свае агентуры ў Амэрыцы.

## Унутраны парадак.

Галоўны мінус нашай Канстытуцыі выяўляецца ў тым, што яна мала прыменіма да нашага жыцьця. Канстытуцыя ўводзіць вечны Сойм, як уладара краю. Ўвесь Урад—Прэзыдэнт, Кабінэт Міністраў—атрымліваюць свае паўнамоцтвы ад Сойму. У наш Сойм пападаюць толькі людзі ад партыяў, а

партыяў у краю занадта многа і яны мала палітычны. Многаліковасьць партыяў вядзе да таго, што ў Сойме трэба шукаць розных кааліцый, якія клапацяцца не аб інтарэсах краю, а аб інтарэсах сваёй партыі. Апроч таго, апіраючыся на гэткія кааліцыі, Ўрад бывае вельмі не моцны. Значыць фактычна ўлада застаецца без урадавых вярхоў.

Так што Літве патрэбна сталая ўлада, якая магла-б працаваць, не баючыся адпаведнасьці і магла-б больш доўгі час знаходзіцца ў руля дзяржавы. Але гэткая ўлада магла-б стварыцца толькі тагды, калі яна будзе залежаць не столька ад Сойму, сколька ад Прэзыдэнта Рэспублікі, выбіраемага не Соймам, а ўсёй нацыяй тэрмінам не меньш, як на сем год. Тэрмін паўнамоцтваў Сойму павінен быць да 5 гадоў.

Ніхто не мае столька заслуг ў арганізацыі і абароне Незалежнай Літвы, як войска, без якога праца якіх-бы то ні было ўстановаў немагчыма.

У невялічкіх дзяржавах, якія не могуць мець вялікай арміі, важна мець яе добра вымуштраванай. У гэтай справе міністэрства абароны выявіць асаблівую ўвагу. Як гэтая муштра павінна праходзіць у войску—гэта тэхнічнае пытаньне. Тут трэба паказаць толькі на навучаньне перад паступленьнем у войска і па выхадзе з яго. Ў гэтай справе трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на вайсковае выхаваньне моладзі ў школах. Неабходна арганізаваць курсы для вучыцялёў, каб яны вышлі афіцерамі запасу. Ў гэтай працы пачотная роля дастанецца літоўскім стрэльцам.

**Культура, культ і асьвета.** Ўрад паклапаціцца ў першую чаргу аб ўпарадкаваньні адносін каталіцкай царквы з заключаемым дзяржаваю канкардатам з Апостальскім прэстолам.

Урад прыме надзвычайныя меры, каб наша моладзь вывучвалася-б замежным мовам, маючым усесьветнае значаньне ў культуры чалавецтва.

Сярэднія школы предпалагаецца рэфармаваць, прыстасаваўшы іх для сельска-гаспадарчых і дробна-прамысловых патрэб краю. Заснаваньне рэмесных і спецыяльных школ будзе аднэй з галоўнейшых заданьняў Ўраду.

Для заахвочваньня прыватных школ сродкі будуць дзяліцца па прынцыпу прапорцыі, устаноўланаму 74 § Канстытуцыі.

Ўвесь унівэрсытэт патрабуе значнай рэформы Некаторыя факультэты прыдзецца аб'еднаць, у самых жа факультэтах зьменшыць адзелы і лік кафэдраў, сканцэнтраваўшы іх на самых аснаўных пачатках. Асаблівую увагу прыдзецца зьвярнуць на падгатоўку прафэсароў. Атрымліваемая прафэсарамі пэнсія настолька мала, што не дае магчымасьці ім аддацца гэтай справе і набыць патрэбныя прылады. Унівэрсытэцкі статут прыдзецца перагледзяць нанава.

Ўрад склаў шырокую праграму дзеяльнасьці. Ён добра ведае, што яму не будзе магчымасьці правясьці яе ў жыцьцё поўнасьцю. Пазьней, другія зьявяцца на нашае мейсца і будуць далей прадаўжаць працу. Ўрад вельмі добра разумее, што ён з посьпехам можа распачаць гэтую працу, калі яму ўдасца згрупаваць у адно цэльнае ўсе жывая сілы нашай нацыі. Ён пойдзе шляхам еднаньня літоўцаў, на які ён прызывае Сойм і шырокае грамадзянства.

---

**Ад рэдакцыі.** Беларусы Літвы з задаволеньнем могуць адзначыць, што праблема Вільні, на чым беларусы грунтуюць свае супрацоўніцтва з літоўцамі, застаецца цэнтральным пунктам літоўскай палітыкі.

Старшыня Ўраду праф. Вольдэмарас кажа: „Літва павінна быць незалежнай са сталіцаю Вільняй“. Старшыня Ўраду, каб дасягненьне гэтай мэты сталася ў мірных варунках, лічыць, што шляхам да гэтага дасягненьня зьяўляецца нейтралізацыя Літвы. Момантам такога об'еднаньня Старшыня Ўраду лічыць той час, калі народы ўсходнай Эўропы пажадаюць стварыць свае ўсходня-Эўропейскае Локарно.

Спрыяючым фактарам для памыснага вырашэньня гэтай справы з вонкавага боку ставіцца існуючы антаганізм — супярэчнасьці паміж Саветамі і Польшчай; з унутранага — відавочнае жаданьне ўсяго літоўскага народу.

На падставе прылучэньня Вільні да Літвы Старшыня Ўраду лічыць магчымым распачаць перагаворы з Польшчай. Польскаму эгаізму Старшыня процістаўляе логіку справы.

Такава ў кароткіх словах палітыка Літвы ў Віленскай справе. Яна зьяўляецца застаяўшайся—стабілізаванай. Тэмп ускарэньня ці замедленьня развязаньня справы будзе залежаць ад нарастаньня, ці зьменшэньня польска-савецкіх супярэчнасьцей.

З некатарага часу ў дэкларацыях літоўскага Ўраду стала звычайным: ні словам не абмаўляцца аб беларусох. Здавалася-б, што ставячы справу Вільні, як галоўны пункт, не варта было-б змоўчваць аб беларусох: па перш, беларусы Віленшчыны складаюць значны лік тамашняга мейсцовага жыхарства; па-другое, яны праяўляюць значную актыўнасьць, што ставіць у няпэўнае становішча польскую акупацыйную ўладу; па-трэйцяе, беларусы, шукаючы мэтадаў для развязаньня справы ўсёй Зах. Беларусі, зацікаўлены ў літоўскім супрацоўніцтве — ў каардынацыі з літоўцамі сваіх высілкаў, скіраваных супроць акупантаў і, чацьвёртае, беларусы Віленшчыны застаюцца пад дрэнным, некарысным для Літвы, ўражаньнем, застаўшымся пасьля, пачатага Гальваноўскім і прадоўжанага кабінэтамі мінуўшага Сойму, разгрому і негляжаваньню беларускай справай у Літве.

Калі яшчэ ў 1922 г. масы беларускага жыхарства Віленшчыны ахвотна прыслухоўваліся і выконвалі дырэктывы з Коўны, то цяпер гэтага сказаць не можна. Беларускае жыхарства заўважыла, што ад некаторага часу літоўскі народ (як відаць з чыннасьці ўлады), атрымаўшы магчымасьць самастойна будаваць сваю дзяржаўнасьць, не вельмі цікавіцца, не аддае належнай увагі традыцыям мінуўшчыны ў сэнсе сьціслага беларуска-літоўскага супрацоўніцтва і супольнага дзяржаўнага будаўніцтва. Прычым ад часу Гальваноўскага на практыцы самыя беларуска-літоўскія адносіны прынялі не выразныя формы і нават не відаць было, што літоўцы прызнаюць беларусоў як старану. — Пачаўся персаналізм і паказная праца на экспорт, прычым нічога не рабілася, каб здабыць зацікаўленасьць і прыхільнасьць беларускіх масаў да Літвы. Наадварот, не толькі мала зьвярталася ўвагі на пашырэньне нацыянальнай сьвядомасьці сярод беларускага жыхарства Літвы і абслугоўваньня яго нацыянальна-культурных патрэб (беларускае жыхарства не маючае сваіх арганізацый і пажаданых перспэктыў ад справы беларускага

адраджэньня у Літве, прадаўжае знаходзіцца пад „апекай“ паланізатарскіх і русіфікатарскіх колаў), да беларусоў сталі прыстасбвываць зямельны закон, дзякуючы чаму ў спрадвеку жывучых побач з літоўцамі беларусоў пачалі адымаць, набытыя пры дапамозе Сялянскага Банку, землі. Апошняя мера зтэрарызавала беларускае жыхарства і канчаткова спыніла пашырэньне справы беларускага адраджэньня на Літве. Здавалася так, што Літва не жадае разглядаць узмацненьне беларускай справы, як фактар, спрыяючы асягненьню літоўскіх дзяржаўных мэт; наадварот — Літва нібы паставіла стаўку на дэнацыяналізацыю беларусоў, на затрыманьне ўплываў справы беларускага адраджэньня сярод масаў. І шкода яшчэ ў тым, што нічога новага, датычучага шырокіх колаў беларускага жыхарства, пасьля вышэйпададзенай катастрафічнай чыннасьці, літоўскай ўладай не зроблена, што памянёная чыннасьць застаецца апошнім уражаньнем беларускага жыхарства аб палітыцы літоўскай Ўлады. Ні Ўрад левага літоўскага блёку, ні Ўрад літоўскіх нацыяналістаў, пакуль што, нічога афіцыяльнага ў беларускай справе не сказаў.

Мы не хочам думаць, што, прынятая, з лёгкай рукі Гальваноўскага, стаўка на дэнацыяналізацыю беларусаў, будзе трываць і на-далей, бо поступ справы беларускага адраджэньня за апошнія гады дае відавочнае сьведчаньне, што беларускі рух не загіне. — Беларусы маюць пьемонт і гэта ёсьць зарука таму, што нацыянальная сьвядомасьць кожнай групы беларускага жыхарства раней ці пазьней будзе праяўлена, а разам з гэтым будзе біта стаўка на іх дэнацыяналізацыю.

Гэткая тактыка не ўдзячна: яна адхіляе ад сябе і не дае магчымасьці скарыстаць тыя элементы, з кім літоўцы ў мінушчыне, цяпер і ў будучыне мелі, маюць і будуць мець столька супольнага; а таму гэтая тактыка павінна быць каардынальна перагледжана.

Беларусы чакаюць адпаведнага слова і чыну ад новага Літоўскага Ўраду.

Свае стасункі да літоўцаў беларусы грунтуюць на спачуцьці да справы літоўскага адраджэньня і літоўскай дзяржаўнасьці; на аднастайнасьці грамадзкіх элементаў і факта-

раў, на якіх трымаецца справа адраджэньня абодвых народаў: на супольнасьці як гаспадарчых, так і палітычных інтарэсаў. Скаардынаваная праца абодвых народаў прыблізіла б момант развязаньня літоўска-беларускіх нацыянальна-дзяржаўных праблем на акупаваных Польшчай абшарах.

Першая частка патрэбнай працы — діскрэдытацыя акупацыйнай улады ў вачох мейсцовага жыхарства — ўжо прароблена. Відавочным сьведчаньнем таму зьяўляюцца масавыя крававыя дэманстрацыі жыхарства ў зьвязку з арыштамі беларускіх нацыянальна-радыкальных працаўнікоў. Прынятыя на сябе цярпеньні беларускіх дэпутатаў далі яшчэ адно сьведчаньне таму, што польскае панаваньне на „крэсах“ зьяўляецца небясьпекай міру на ўсходзе Эўропы.

Для далейшага посьпеху справы, для больш лягоднага і хуткага дасягненьня заданьняў як літоўскай, так і беларускай палітыкі трэба, каб акупаванае жыхарства было-б зацікаўлена ў прыходзе сваіх збавіцеляў з-пад гнёту акупантау, каб яно ведала варункі чакаючага яго новага жыцьця.

Тэарэтычна разважаючы над гэтым, можна думаць, што літоўскія палітыкі будуць імкнуцца ўзмацаваць і палепшыць дабрабыт тамашняга літоўскага жыхарства, а так як яно там амаль выключна складаецца з сялянства, то літоўцы будуць узмацоўваць сялянства: бо стычнасьць і ўзмацаваньне буржуазна-абшарніцкіх элемэнтаў перашкаджала-б росквіту справы літоўскага адраджэньня.

Выходзячы з гэтых істотных пастулатаў літоўскай палітыкі, беларускае жыхарства можа было-б здольна прыблізна ўявіць сабе, чаго ў справе сацыяльнай могуць чакаць і беларусы ад прыходу ў Вільню Літоўскай Ўлады. Перашкаджаюць правідловаму зразуменьню, маючай усталіцца палітычнай сітуацыі, тыя нацыяналістычныя каррэктывы ,якія літоўцы, як кожная нацыянальная ўлада, могуць унясьці ў гэтую сацыяльна палітычную сітуацыю.

Практыка жыцьця (дзякуючы чаму можна ў некаторым сэнсе прэдугледжваць вышэйпамянёныя нацыяналістычныя карэктывы ў палітыцы) вельмі паніжае каштоўнасьць (для беларускага жыхарства Віленшчыны) сацыяльных перспэктываў, якія павінна нясьці з сабою Літоўская Ўлада.

Не кажучы ўжо аб тым, што культурныя патрэбы беларускага жыхарства сучаснай Літвы знаходзяцца ў загоне, што Ўлада не праявіла належнай ініцыятывы ў справе нацыянальнага ўсьведамленьня беларускага жыхарства (абслугоўваньня яго школай у роднай мове...) Пастаноўку самай істотнай для беларускага жыхарства Літвы — зямельнай справы трэба прызнаць зусім нездавальняючай.

Беларусы, прыняўшыя разам з літоўцамі ўдары русіфікатарскай палітыкі царызму, не могуць адпавядаць за ўчынкі царскага ўраду, і, правадзімае практыкай, лішэньне іх, купленых праз Сял. Банк, зямель, зьяўляецца ні на чым не абапертай крыўдай. Можна сказаць, што артыкулы „c“ і „d“ § 1 аб зямельнай рэформе зьяўляюцца тормазам на шляху падыходу да Вільні літоўскай дзяржаўнасьці.

Даць пажаданыя варункі жыцьця беларусам сучаснай Літвы — гэта патрэба літоўскай нацыянальнай палітыкі ў справе дасягненьня чарговых дзяржаўных заданьняў.

Беларусы Віленшчыны палажылі шмат ахвяр у змаганьні з акупантамі і таму ў праве спадзявацца на братэрскія да сябе стасункі Літоўскай Улады.

Перагляд, датычучай беларусоў, палітыкі і аўтарытэтнае слова Літоўскай Улады разьвее некаторую студзёнасьць у літоўска-беларускіх адносінах, навеяную нашчаткамі палітыкі Гальваноўскага... ўзмацуе і прыцягне новыя сілы на змаганьне з акупантамі за літоўска-беларускую справу — за сталы мір, грунтуючыйся на справядлівасьці.

*Янук Косьцевіч*
літоўскі беларус з Палагні.

# Памяці Вялікага Князя Літоўскага Вітаўта.

## Ваенны паход на Крым—шукаць выхаду да палудзеннага мора.

(Канец).

### VI. Адход дамоў па вайне.

Князь наказ даў: сілу ўсю сабраць пры моры,
Каб ўсе адпачылі, забылісь аб горы.
У мора ваяры хадзілі купацца,
Па вялікай працы сталі забаўляцца,
Вечарамі часта свое песьні пелі
Дый шмат вінаграду, што расьце тут, елі.

Але стала нудна па сваёй старонцы,
Хацелася к бацьку, к матцы, к мілай жонцы.
Князь добра знаў гэта, даў дзень да адходу,
Дый сазваў на той дзень без ліку народу.
Сам на каню скочыў з дружынай да мора,
Узяў піку у рукі, убіў у дно скора,
Зьняў шапку, рукою за палаш узяўся,
Да народу громка гэтак адазваўся:

„Калі нам Бог пазволіць жыць,
„Літву родную старажыць,
„Мяжою трэба даражыць —
„*Літва дасюль павінна быць!*
„Кожны скажы сыну і унуку,
„Як даваць будзем ім навуку:
„Як трэба нам Літву любіць.
„Шчасьце дало пражыць шмат гора,
„Гэта цяпер ёсьць наша мора:
*Літва дасюль павінна быць!*"

Кожны на каленках ў вернасьці кляўся,
Як Князь конна ехаў, з народам вітаўся.

*) Глядз. № 88 „Покліча".

А ўжо пад вечар магутная сіла
Да сябе, да дому—ў Літву адступіла.
Даглядаць краіну, даглядаць народу
Князь пакінуў тутка свайго ваяводу.

## VII. Пасьля вайны.

Хан Князю даў сілы чатыры чамбулы,
Коней, шмат даў зброі, людзей два авулы,
Шырокі даў бераг — мець выхад да мора,
Людзі дык да Князя пазьбегліся скора.
Князь ласкава прыняў іх ў сваё падданства,
Кожнаму патомна надзяліў дваранства,
Даў ім зямлі многа у Троцкім павеце,
Там ім зусім добра стала жыць на сьвеце.
Дык яны-ж і Князя ад сэрца любілі
І верна і шчыра ўсе яму служылі...
Жывуць іх нашчаткі дасюль, дый працуюць,
Князя ўспамінаюць, дваранства шануюць.
Сам у хаце бачыў: у святліцы чыстай
Указ аб дваранстве ў раме залацістай
На сьцяне прыбіты і гожа прыбраны —
Гэта ёсьць падарак ім ад Князя даны.

Стары дзед-татарын нам шмат чаго правіў,
А я сваім ўнукам сьпісаў дый заставіў,
Цяпер састарэў сам, няхай, як час маюць,
Можа і мой запіс калі прачытаюць.

„Князь, казаў—татарын,—гаварыў прыгожа,
Яго мова з нашай зусім была схожа, —
Пад Вільняй ўсе людзі той мовай гукаюць
І да гэтуль мовай гэнай карыстаюць.

## VIII. Сьцяг.

Дзяўчаты-татаркі Князю сьцяг зрабілі
З трох палотнішч, гожа золатам расшылі,
А колер быў жоўты, зялёны, чырвоны,
І шнур быў да сьцягу шоўкавы сьпляцёны.

Колер жоўты значыў полі, ніву хлеба,
Зялёны—дык пожні, луг, лясы пад неба,
Чырвоная барва—ту кроў, што праліта,
Пакуль Хана сіла не была падбіта.

Сьцяг к цаў'ю той пікі Князёўскай прыбілі,
Ў вялікіх паходах пры войску насілі,
Князю дык сьцяг гэты вельма спадабаўся —
Ён і у паходах з ім не расставаўся.

Пасьля Князь надумаў ў барвах нашыць знакі,
Каб на доўгі часы помнілі ваякі
Той паход вялікі і ўсё тое гора,
Пакуль на палудню не здабылі мора.

І сьцяг той Князь расшыць сказаў,
На кожны колер знак ён даў:
На жоўты серп, каса і сноп —
То мела значыць Перакоп,
Ўсе тыя нівы, што Бэй меў
І без вайны даць не хацеў.

А на зялёны каб нашыць:
„Літва дасюль павінна быць!“
Гэта што у моры Князь сказаў,
Як у дно піку забіваў.

У чырвоным знак—каб конь быў белы,
А на каню каб—рыцар сьмелы
Палаш ў руцэ сваёй трымаў
І ворагаў у бітвах гнаў.
Гэты на памяць, як ганялі
Мы тых, што з намі ваявалі.
Кожны з ваяводаў татарак прасілі,
Каб і ім па сьцягу гэткае-ж зрабілі,
Каб на Літве людзі ведалі і зналі,
Што гэны сьцяг гожы на вайне дасталі.

Князь дык ім у гэтым а ні, не спрэчаўся
І сьцяг той „Літоўскім“ ад тых пор празваўся.
На сьцягу літоўскім не нашылі знакаў,

А з Князеўскім ў іншым ён быў адзінакаў:
Цаў'ё, ўверсе піка, шнур і сьцяг прыбіты
З трох барвных палотнішч золатам расшыты.
Суседзі, крый Божа, сьцяга не любілі
Таго, што пры Князю у войнах насілі.
Бо як толькі ў войнах нашы зямлю бралі,
Дык гэны Князёўскі сьцяг ў мяжу ўбівалі.
І кожны знаў надпіс на тым сьцягу,
Што „Літва дасюль быць ад тых пор павінна!“

Князь наш ад тых часаў маець памяць гэту,
Што Літва знакома стала ўсяму сьвету.
Нас і цяпер крыўдзяць, але цярпець трэба,
Кажуць: без пакуты не ўвойдзеш у неба.
Бачым: сьцяг ачнуўся, прачхнуўся Конь Белы
І палаш трымае ў руцэ Рыцар сьмелы.
Няхай-жа нам лёс дасьць, каб мы дачакалі,
Каб ворагаў гналі, як даўней ганялі.

1926—V—28.
Паланга.

*М. Бяздольны.*

## Дэман.

Ўжо спіць зямля. А з-пад аблок
Смяючысь месяц выглядае,
А вецер горкі і лясы
Шумліва, злосна аблятае.

У гэты час з вышы нямой
Палётам моцным дух начны
Да мяне аднекуль прылятаў
Сабе дарогаю знаёмай
І гэтак голасам сваім
Ён гаманіў мне вось аб чым:

„Глядзі, глядзі, як дні лятуць,
Як іх зьмяніці ноч сьпяшае,
А вечнасьць старою рукой

Іх нараджэньне падлічае.
Ім некалі на мір глядзець:
Іх гоняць,—трэба ім ляцець..

Куды ідуць яны, скажы?..
Да якой мэты так спяшаюць?..
Ў цемры вечнасьці нямой
Спакой—прытулак атрымаюць.
І ўжо ніколі зноў да нас
Ім не вярнуцца, хоць на час.

А ўсе-ж такі яны ідуць.
Хоць дзень,—іх дзень, яны—панамі.
Яны жыцьця свайго ніколі
Не памяняюць, пэўна, з намі.
Яны жывуць... Што за бяда?..
Яны глядзяць на нас згарда.

Яны ідуць. Іх падарож
Для нас таемна і цікава.
Там іх жыцьцё... Іх супакой...
Іх дзень, іх век малы і жвавы...
Што могуць, ўсё з жыцьця бяруць
І ў бязупыннасьці бягуць...

Чаму глядзіш ты праз слязу
На духу моцнага знішчэньня?
Няхай жыве ён у грудзі
Да лепшай хвілі адраджэньня.
Хаўтур яму ты не рабі,
Дай волю, выйсьці падсабі...

Падойдзь бліжэй, вось, да мяне!
Бо да цябе зусім паціху
Я буду, мілы, гаварыць,
Хоць маю часу зусім крыху.
Цябе ня буду я будзіць,
Ня маю кепскага рабіць.

Глянь вось туды!.." І дух рукой
Ткнуў да паўднёвага заходу

Гдзе бог, бязлітасьнейшы бог
Згубіў вялікую прыгоду,
Каб дабрабыт яго народу
Ў крыві паганблены ляжаў.

„Яму адному ад зямлі
На аўтары светатрухленьня
Эфірам чыстым да нябёс
Ідзе ахвярапрынашэньне.„
Туды без спрэчкі і без слоў
Пайшоў вялікі шмат рабоў,

Гдзе шмат гадоў над краем тым
Ўсё паўзуха завывала,
Схіляла ніклыя лясы,
Іх стан бязжаласна ламала.
І пышны лес, схіляўся, выў,
Гарэзасьць гэтую знасіў...

Там плача Пушча, стогн яе
З грудзей ўзбалелых вылятае.
І рэхам ціхім над зямлёй,
І бязсільлі змучана сьціхае,
Як жывы плача (зразумей!)
Над стратай роднае сваей...

Там сівы Нёман бераг свой
Грызе, у злосьці размывае,
То чоўн адважны на сабе
Аб скалы схапіўшы зьбівае.
Цану ён знае ім усім.
Ля берагоў іх нішчыць ўсіх.

Як хваля дзікі, вольны сьпеў
Народ з абуранай душой
Нясе наперад ўсё сьмялей.
На роднай мове на сваёй
Яго я ведаю з табой —
Я ім дзялюся, мілы мой.

Там над балотамі імгла
Сівым зданьнём стаіць ў прасьцягу.

Па іх паўстанцаў шмат радоў
Ішлі на страшную адвагу.
Крумкач вартаўнікам іх быў,
Трывогу ў час начны рабіў.

Але патрэбна песьня ім.
Пад гук яе за гвалт, за зьдзекі
Лягчэй ім будзе ваяваць...
Перахадзіць балоты, рэкі...
Ты гэту працу зразумей
Душою ўзвышанай сваей.

Не пагарджай ты слоў маіх,
Пакрыўджанага духа.
Сваю ён скаргу пасьвяціў
Славамі гэтымі сваімі,
Каб з лірай ты сваёй
Спяваў-бы там... Край бедны мой!

Там, між руінамі ўначы
Лятаю я без забароны.
Вартую я, што так люблю
Мой край каханы, пакрыўджоны.
Я не зьмяню слязы яго
На жыцьцё недруга майго.

Ён дораг мне, пакутнік мой
І непарушнасьць майго духу.
У немачы, бядзе сваёй
Прымусіць ворага да скрухі...
Ён будзе жыць!.. Лёс кепскі свой
Паправіць уласнаю рукой...“

І дух маўчаў... А слёзы твар
Яго зnative замораны аблілі,
Аблічча прошлых цяжкіх дзён
На сэрцы немарасьць рабілі.
Жадаў ён шмат чаго сказаць,
Сляза ня дала распачаць.

Так плакаў доўга дух пры мне
Сьлязамі чыстымі сваімі.

І ўсё павабнае у ім
Мяшалась з думкамі маімі
І якась цяжка было мне,
Бы ў якімсь кашмарным сне.

*Epiloh.*

І неба цёмнае зрабілась.
Зхаваўся месяц за гарой.
І дзесьць далёка над вадой
Начное рэха пракацілась.
А дух, вялікі дух стаяў...
Ён ад мяне чагось жадаў.

Я слова даў, што буду пець...
І дух магутна узварухнуўся,
Як цень якая ўстрахануўся,
Крылом узмахнуўшы, паляцеў.
І доўга я глядзеў туды,
Гдзе скрыўся цар мае нуды...

---

# Акадэмічная Нарада.

(Уражаньні з падарожжы.)

Па ініцыятыве Інстытуту Беларускай Культуры была склікана *Акадэмічная Нарада па рэформе беларускага правапісу і азбукі.* Мэта Нарады — выправіць беларускі правапіс так, каб літары ў беларускім пісьме адпавядалі гукам беларускай мовы і каб правапіс быў прасьцейшы і больш лёгкі для навучаньня ў школах.

Людская мова, як і ўсё жывое, ніколі не застывае ў сваім разьвіцьцю. Мала таго, што новыя дасягненьні чалавеччай культуры патрабуюць сваіх найменьняў,—сама мова, дзякуючы розным варункам жыцьця, працерплівае даволі кардынальныя зьмены, прыкладам: старая грэцкая мова зусім мала падобна да мовы сучасных грэкаў. І народам (у зьвязку з гэтым) прыходзіцца або пісаць па старадаўнему і трымаць у сваёй пісьменнасьці шэраг літараў, якія цяпер ня вымаў-

ляюцца, як прыкладам у мове ангельскай; або час—ад—часу рабіць перагляд сваёй азбукі і правапісу, каб ён больш адпаведаў сучаснай гутарцы.

Гэткія перагляды ў правапісу зрабілі сэрбы; некаторае спрашчэньне, ў час рэвалюцыі, зрабілі расейцы; ў гэтым годзе зрабілі перагляд і ўкраінцы.

Такі-ж перагляд па загаду Інбелкульту зрабілі і беларусы.

На Канферэнцыю былі запрошаны прэдстаўнікі навукі-мовазнаўцы ад розных навуковых установаў. Ад універсытэтаў - Менскага, Маскоўскага, Ленінградскага, Кіеўскага, Харкаўскага, Літоўскага, Латвійскага, Эстонскага, Варшаўскага, Кракаўскага, Белградскага і Бэрлінскага. Разам з гэтым былі запрошаны на Нараду беларускія грамадзкія працаўнікі ў справе беларускага адраджэньня як з Радавай Беларусі, так і з пазамежаў — з Заходняй Беларусі, Латвіі, Літвы і Чэхаславаччыны.

Нарада мела зрабіць рэвізыю - смотр беларускім нацыянальна-культурным дасягненьням. І большасьць з запрошаных або самі зьявіліся на канферэнцыю, або прыслалі свае даклады.

Не зьявіліся толькі на Канферэнцыю прэдстаўнікі Зах. Беларусі, бо іх не пусьціла на Канферэнцыю польская ўлада. Польшча сваім учынкам надала Канферэнцыі палітычную адзнаку. Польшча паказала сьвету сваю „ахілесаву пяту“. Польшча дала сьведчаньне таму, што яна не можа быць залічана да культурных дзяржаваў сьвету, бо відавочна забараняе народам, выпадкова трапіўшым пад яе „апеку“, задавальненьне іх культурных патрэб. Польшча, забараняючы пропуск беларусам на Канферэнцыю, выявіла няпэўнасьць свайго становішча, што сваю ўладу над захопленымі землямі яна трымае насільствам над воляй і правам акупаванага жыхарства, што Польшча не зможа знайсьці шляху для ўладжаньня, замірэньня з гэтым акупаваным жыхарствам. Польшчу пачынае раз'едаць яе ўласны імпэт.

Польскі ўчынак зрабіў дысананс для беларускага культурнага сьвята, а разам з гэтым зрабіўся падставай для выяўленьня беларускай салідарнасьці і спачуцьця сваім акупаваным братом.

Дэлегацыя з Літвы на Акадэмічную Нараду ў складзе: рэктара Літ. Унівэрсытэту праф М. Біржышко і беларускіх дзеячоў А. Галавінскага і В. Ластоўскага ў ноч на 11 лістапада м. г. выбыла праз Рыгу, Дзьвінск у Менск. У Рызе дэлегацыя была спаткана прэдстаўнікамі беларускай меншасьці ў Латвіі. Апошнія папрасілі затрымацца на адну пару ў Рызе і азнаёміцца з беларускімі школамі і ўстановамі ў Рызе. Нашымі дэлегатамі былі абгледжаны дзьве беларускія шасьціклясовыя школы і вучыцельскія беларускія курсы. Школы і курсы знайходзяцца ў ваколіцах гораду, але ў добрых і сьветлых будынках.

Сабраныя ў салю школы, вучні прасьпевалі латвійскі і беларускі гімны і некалькі беларускіх песень, прадэклямавалі некалькі бел. вершаў. Цікава было заўважыць уздым сярод дзяцей нацыянальнага пачуцьця. Па рэлігійнаму складу дзеці падзяляюцца: 65% белар. каталікоў і 35% праваслаўных. Увечары прэдстаўнікі беларускіх арганізацыяў Рыгі ўладзілі для дэлегацыі банкет, на якім таксама прысутнічаў вядомы латвійскі песьняр А. Райніс (таксама дэлегат на Акадэмічную Нараду з Латвіі). Было сказана шмат прамоваў, падкрэсьліваючых патрэбу латвійска-беларуска-літоўскага азнаёмленьня і зблізкэньня.

З Рыгі наша дэлегацыя выехала разам з латвійскай. Праводзілі дэлегацыю як прэдстаўнікі беларускіх арганізацый у Рызе, так і прэдстаўнік СССР у Латвіі гр. Баркусевіч (бывшы Наркомздраў БССР).

У Дзьвінску прывітаць дэлегацыю зьявіліся вучыцялі Дзьвінскай беларускай гімназіі і прэдстаўнікі консульства СССР.

Савецка-Латвійскую граніцу пераехалі каля 5-ай гадзіны ўвечары на вучастку Індра-Бігосава. На ўзмежжы прэдстаўнікі Савецкай ўлады, папярэджаныя аб праездзе літоўскай і латвійскай дэлегацыі ў Менск, спаткалі нас, звольнілі ад тамажэннага перагляду рэчаў, далі спраўку аб далейшым маршруце на Менск.

Бігосова новая, толькі што пабудаваная станцыя; цэнтральная частка будынка бетонная, двухпавярховая, крылья (мытніца і буфэт) аднапаверховыя. На станцыі чырвоны штан-

дар БССР. Некаторыя з нас зайшлі ў буфэт—шклянка гарбаты 5 к., 25 штук паперос 22 капейкі. Прэдстаўнікі Савецкай улады радзілі нам перасесьці ў Полацку, гдзе для дэлегацыі быў загатоўлен мягкі вагон, і ехаць беспасрэдне ў Менск удоўж Савецка-Польскай граніцы. Але наша дэлегацыя, ўмовіўшыся з раней выехаўшай латвійскай дэлегацыяй-Езавітавым і Пігулеўскім спаткацца ў Вітэбску, выбрала маршрут на Вітэбск. У Вітэбск мы прыбылі ў 2½ гадзіны ўночы. Нам прэдстаяла перасадка, прычым прышлося чакаць бесперэсадачнага вагону на Воршу-Менск да 11 гадзіны ўвечары, гэта знача каля 21 гадзіны. Да раніцы дэлегацыя затрымалася на вакзале. Пачакальная саля выглядае даволі прыгожа—ўсе сталы засланы палатнянымі белымі настольнікамі, застаўлены вазамі з кветкамі. Буфэт, да рэчы сказаць з добрай закускай і выпіўкай, адчынен круглую пару. Тут-жа ў пачакальнай салі кіосак з газэтамі і кнігамі. Раніцаю пачалі шукаць дэлегатаў Езавітава і Пігулеўскага; праехалі трамваем па гораду. Горад з вонкавага боку робіць даволі добрае ўражаньне; прыгожасьць яму прыдае Дзьвіна сваімі крутымі берагамі, стыльныя будынкі старых царквей і касьцёлаў. Новае жыцьцё ўрываецца ў гэты стары сьвет—на галоўным пляцы супроць касьцёлаў зьмяшчаецца найвялікшы будынак у горадзе—Дварэц Працы (быўшы акружны суд), гдзе сканцэнтраваны ўсе рабочыя прафэсыянальныя ўстановы. Кварталы тры адгэтуль у кірунку Акружнага Выканкому (б. дом губернатара) знаходзіцца чатырохпавярховы, (яшчэ большы за будынак Дварца Працы), новы будынак, займаючы амаль цэлы квартал, у якім будуць сканцантраваны ўсе савецкія ўстановы Вітэбску.

У Вітэбску знаходзіцца Латвійскае Консульства. Ехаўшыя разам з намі латышы запрапанавалі азнаёміцца з Консульствам. Нам цікава было пазнаёміцца з замежным прэдстаўнікам Беларусі, і мы з прыёмнасьцю прынялі прапазыцыю латышскіх дэлегатаў. Консульства зьмяшчаецца ў даволі вялікім і сьветлым будынку. Памешканьне абстаўлявана прыгожай і стыльнай мэбляю; па сьценах развешаны даволі каштоўныя малюнкі розных мастакоў. Вельмі гасьцінна спаткаўшы нас, консул запрапанаў жадаючым памыцца з дарогі ў яго ванне, а тым часам сэкрэтарша прыгатавала для нас добрае сьнеданьне. Адбываўшаяся з консулам гутарка, сапсавала

першыя добрыя ўражаньні ад спатканьня. Для Консула было ўсё „странно“, пачынаючы ад ладу тамашняга жыцьця і канчаючы тым, што ў Савецкай Беларусі, гдзе ён зьяўляецца акрэдытаваным, уводзіцца ў школах і ўстановах беларуская мова. Расчараваныя мы пакінулі „странного“, жывучага ў добрых варунках, консула; пашкадавалі, што суседняя, маючая шмат супольнага з беларусамі, дзяржава не знайшла чалавека, які-б больш дакладна разумеў і спачуваў справе беларускага адраджэньня.

Каля 12-ай гадзіны ўначы ўся дэлегацыя сабралася на вакзале і, разьмесьціўшыся ў вагоне прамога сообшчэнія, выехала да Менску. Вагоны як цьвёрдыя, так і мягкія ўтрымліваюцца чыста; за пляваньне на падлогу альба за курэньне ў забароненым мейсцы зьнімаецца тры рублі штрафу. Цягнік наш пунктуальна па расьпісаньню, каля 8 г. раніцы, прыбыў ў Менск.

---

Далейшыя інфармацыіі аб уражаньні з Акадэмічнай Нарады, каб не паўтарацца, даём з прамовы праф. М. Біржышко, сказанай на беларускім сходзе ў Коўне 24—I—27 г.

## Прамова праф. М. Біржышко.

У беларускім сходзе выявіў ласкавую згоду прыняць удзел—вядомы прыхільнік беларусоў—рэктар Літоўскага Унівэрсытэту М. Біржышка, які езьдзіў у Менск на Беларускую Акадэмічную Нараду.

Паважаны праф. быў ласквы і выразіў згоду падзяліцца сваімі ўражаньнямі з падарожжы ў Менск на вышэйпамянёную Нараду з прысутнымі на сходзе.

Сход вітаў паважанага праф. М. Біржышко дружнымі воплескамі.

У прадмове праф. М. Біржышка зазначыў:

„Папяраджаю, што я буду гаварыць не ўгоду і не супроць якой-колечы партыі,—буду гаварыць зусім аб'ектыўна.“

Далей праф. М. Біржышка сказаў наступнае:

„Ў Менску на станцыі нас спаткалі прадстаўнікі Інстытуту Беларускай Культуры і адвязьлі ў найлепшы готэль „Эўропа“, гдзе нам былі прэдастаўлены пакоі з усімі выгодамі.

За ўвесь час Нарады я адчуваў сябе вольна: ішоў сам знаёміцца і аглядаць тое, што мяне больш цікавіла. Многія галіны беларускага жыцьця (дужа цікавыя) прайшлі прад маіма вачмі няпрыкметна па той прычыне, што я мала ў іх разбіраюся, і дзеля гэтага ўся мая ўвага была зьвернута на культурна-асьветную працу. *Тут я ўбачыў многа такога, што і нам літоўцам магло-б паслужыць прыкладам.* Культурна-асьветная праца проста ўразіла мяне як сваім шырокім памерам (ахапіўшым усю Беларусь), так і кіпучай працай і тымі вынікамі, якія дасягнуты ў такі кароткі (5—6 гадоў) тэрмін.

Галоўным цэнтрам беларускага інтэлектуальнага жыцьця зьяўляецца Інстытут Беларускай Культуры. Гэта ўстанова паходзіць з нетраў самога народу, гдзе выкрысталізоўваецца Беларусь. Інстытут падзяляецца на сэкцыі (слоўнікавая, краязнаўчая і інш.), ў якіх выкрысталізоўваецца беларуская мова і культура. Асабліва трэба адзначыць сэкцыю краязнаўчую: яна мае свае аддзелы па ўсей Беларусі, адных толька карэспандэнтаў правінцыяльных налічвае 6000 чалавек.

Выпрацоўкай беларускай мовы, ўтварэньнем беларускіх тэрмінаў, зьбіраньнем слоўнікавых матэрыялаў ведае слоўнікавая сэкцыя, сабраўшая да 260.000 беларускіх слоў з рожных акругоў. На падставе гэтых матэрыялаў яна выпрацоўвае вялікі беларускі слоўнік. Такую пастаноўку трэба прызнаць рацыянальнай. У нас у Літве вёў гэтую справу адзін праф. Буга і пасьля яго сьмэрці няма такой асобы, хто-б, ведаючы усі матэрыялы ў поўным маштабе, мог-бы прадаўжаць гэтую працу.

У ведзеньні Інстытуту знаходзяцца музэі, помнікі старажытнасьці і тэатры. Павінен адзначыць, што тэатральная справа пайшла хуткім крокам наперад. Менскі і Вітэбскі тэатры зьяўляюцца фахаўскімі і беларусам сароміцца за іх не прыходзіцца.

Агулам кажучы, да якой беларускай інстытуцыі ні зьвернешся, ўсюды дзівісься каласальнай тэхнічнай працай і энтузыязмам працаўнікоў.

Стары погляд многіх, што беларуская справа ёсьць справа любіцельская,--цяпер трэба прызнаць устарэласьцю.

Інстытут маюць намер пэратварыць у Беларускую Акадэмію Навук. Шкада, калі гэта запраўды станецца, бо Акадэмія (ў сілу традыцый гэтых навуковых установаў) не здолае так абхапіць беларускую справу, стаяць так блізка да народных гушчаў і прыслухоўвацца да іх патрэб і жаданьняў, як гэта робіць Інстытут.

Пры Інстытуце маюцца аддзелы нацменшасьцяў. На здавальненьне іх патрэб Інстытут зьвяртае немалую ўвагу.

Менскі Унівэрсытэт — інстытуцыя навучальная. Добра прыгледзіўшыся да гэтай установы, як сам стоячы на чале Літоўскага Унівэрсытэту, я не знайшоў таго, што бачыў у Інстытуце. Кінулася мне ў вочы гэта прафэсура Унівэрсытэту. Праўда, тут ёсьць прафэсары беларусы, але шмат і не беларусоў — маскалёў і іншых. Сам рэктар Унівэрсытэту Пічэта гаворыць (як кажуць там у Менску) не нашай мовай, а якойсь-ці кніжнай. Нажаль, ёсьць прафэсары маскалі, якія не лішаны цягі да „добрага“ мінулага.

Студэнства цягнецца да беларускай справы, але Ўнівэрсытэт, дзякуючы недахвату навуковых сіл, здавалася, не здавальняе іх нацыянальнага пачуцьця.

Пераходзячы да самой Нарады павінен зазначыць, што Ўрад Рад. Беларусі прыняў крокі, каб прыдаць паважнае значэньне. На Нараду быў запрошан шэраг выдатных прафэсароў-мовазнайцаў як з СССР, так і замежных. Нарада мела чыста навуковы характар, ў якім высказваліся і афіцыяльныя прадстаўнікі БССР (Камісар Асьветы і Старшыня Інстытуту Беларускай Культуры праф. Ігнатоўскі).

Саля паседжаньняў была ўбрана ў беларускім нацыянальным колеры.

На паслугі Нарады былі прэдастаўлены радыё, кіноапараты і стэнографы.

Нарада была прысьвечана пытаньням беларускага правапісу і азбукі. Гэтую справу вам больш падрабязна высьветляць садакладчыкі беларусы. Я больш цікавіўся літэратур-

най сэкцыяй, яе працаю і знаёміўся з літэратурай і літэратарамі—многа ў іх этнузыязму, ёсьць і дасягненьні.

Я азнаёмлен з працай беларусоў Літоўскіх, Віленскіх і Латвійскіх. Не ў крыўду ім будзе сказана, што іх культурныя дасягненьні не можна ставіць у параўнаньне з дасягненьнямі Менску.

Для мяне зусім зразумела цяга ўсіх замежеых беларусоў да Менску, як да свайго культурнага цэнтру".

(Працяг аб уражаньнях па канфэрэнцыі ў наступным нумары).

---

# Д-р Ян Басанавічус.

16-га лютага г. г., на 76 году свайго жыцьця, памёр патрыярх літоўскага нацыянальнага адраджэньня д-р Ян Басанавічус.

Радзіўся Ян. Басанавічус 1851 г. ў вёсцы Ашкабалях, Сувальскай губ. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Марыямпальскай гімназіі, па сканчаньні якой паступіў у Маскоўскі ўнівэрсытэт на медыцынскі факультэт.

Янам Басанавічусом пачынаецца тая літоўска інтэлігенцыя, якая шчыльна зьвязана з народам. Ведаючы патрэбы жыцьця літоўскага народу, яна залажыла запраўдны фундамант літоўскага адраджэньня.

Д-р Ян Басанавічус, яшчэ будучы студэнтам, пачаў выдаваць часопісь „Aušra". І царскаму ўраду, і польскаму панству вельмі не падабалася гэтая часопісь.

Д-р Ян Басанавічус змушан быў эміграваць за граніцу ў Прусію, гдзе прадаўжаў выдаваць гэтую самую часопісь і нелегальна перапраўляць у Літву. Наўкола гэтай часопісі пачала гуртавацца літоўская інтэлігенцыя: д-р В. Кудзірка, д-р Грыніус, д-р Стаўгаціс і іншыя. Ў часы першай Расейскай рэвалюцыі гэтая выхаваная інтэлігенцыя выходзіць на палітычную арэну—склікае агульна-літоўскі зьезд у Вільні, гдзе выступае абаронцам правоў літоўскага народу.

Д-ру Яну Басанавічусу, як немногім у жыцьці трапляецца, давялося ўбачыць уцелаішчаньне тых ідэй, за якія ён распа-



чаў барацьбу, давялося ўбачыць выяўленьне сувэрэнітэту свайго народу ў форме Незалежнай Літвы.

Ўдзячнае грямадзянства, яшчэ пры жыцьці д-ра Яна Басанавічуса, паставіла яму помнік.

# Беларускае жыцьцё ў Літве.

**Ад'езд В. Ластоўскага.** 22/III г. г. выехаў з Літвы вядомы беларускі дзеяч В. Ластоўскі. Яго побыт у Літве зьвязан з акрэсьленым кірункам Літоўскай палітыкі адносна беларусоў. В. Ластоўскага еднаюць добрыя ўспаміны аб супольнай працы, яшчэ пачынаючы з Вільні, з шэрагам Літоўскіх грамадзка-палітычных дзеячоў. Гэтыя асабістыя адносіны адбіваліся на ўсей справе літоўска-беларускага супрацоўніцтва. Гэтай галіне беларускай справы і ствaрыўшыйся, дзякуючы ей, палітычнай сітуацыі варта было-б прызначыць асобны артыкул (што мабыць і зробім другім разам). Цяпераka толькі адзначым, што старыя ўспаміны літоўскіх і беларускіх дзеячоў перажылі належны ім час, — скавалі, затрымалі старымі ўражаньнямі, старымі поглядамі на справу суседняга народу, поступ узаемнага разуменьня і зьбліжэньня літоўскага і беларускага народаў.

Цікава ў апошнім сэнсе зробленае, вельмі паважаным літоўскім дзеячом М. Біржышко, сьведчаньне (зазначанае на сходзе ў час справаздачы пасьля Акадэмічнай Нарады)-пануючая сярод некатарых літоўскіх колаў думка, што *беларуская справа ёсьць справ любіцельская* з'являецца абмылковай. *) Пад уплывам гэткіх старых поглядаў і ўспамінаў аб старых варунках і мэтадах супрацоўніцтва, частка адказнага літоўскага грамадзянства праглядзіла ўздым і тэмп разьвіцьця беларускага руху і не здолела заўважыць і своечасна адгукнуцца—здаволіць яго запытаньні і патрэбы, і таму (не гледзячы на ўсе спрыяючыя варункі) не здолела падпарадкаваць яго—ўвясьці ў арбіту сваёй палітыкі. Беларускі рух прыняў масавы характар. Ён ужо не абмяжоўваецца гурткамі паасабных адзінак, не вымагае пачынальнікаў, а сам высовывае сваіх павадыроў і вымагаў ад іх выконываць заданьні беларускай справы, абслугоўваць патрэбы жыцьця. Мабыць неспадзеўкам сталася невязка, якая суліла расчараваньне абедзьвём старанам: павадыры беларускага руху ў Літве

---

*) „Любіцельская"—тэта нешта кшталтам дзержавінскае—„*приятно, сладостно, полезно, как летом вкусный лимонад*".

заўважылі, што стыхійны ўздым беларускага руху адбываецца паміма, не кантралюецца іх волей, што зьменшаецца, трацицца уплыў на масы, а літоўцы, бачачы, што традыцыйныя, выпрабаваныя мэтады падходу да беларусоў не даюць чакаемай карысьці, перасталі лічыць уздым беларускай справы, як спрыяючы Літве палітычны фактар. В. Ластоўскі здолеў знайсьці ў сябе сілы, каб справу літоўска-беларускіх адносін паставіць рубам.

Стары магікан, літоўскі фарпост у беларускай справе рушыўся ў дарогу. Ад'езд Ластоўскага павінен паслужыць сьведчаньнем, што тактыка ў, вымагаемай патрэбамі жыцьця, справе літоўска — беларускага супрацоўніцтва чакае кардынальных каррэктыў.

З культурнага боку побыт В. Ластоўскага ў Літве пакінуў неўпараўнаньні больш паважныя нашчаткі. — „Гісторыя Беларускай (Крыўскай) Кнігі“, „Расейска-Беларускі (Крыўскі) Слоўнік“ зрабілі не толькі імя В. Ластоўскага, а разам з тым зьяўляюцца вельмі каштоўным укладам у беларускую навуку.

---

## Нам пішуць:

У нас у Шаўлях ёсьць некалькі дзесяткаў беларусоў, але да гэтага часу, нажаль, няма ніякай беларускай нацыянальнай арганізацыі. Самая галоўная прычына — гэта пасыўнасьць у нацыянальнай справе і гэтая пасыўнасьць знаходзіць сваю падпору ў рэальных варунках жыцьця: большасьць мейсцовых беларусоў складаецца з чыноўнікаў, якія знаходзяць, што боязна займацца беларускай справай, каб не абвінавацілі ў палітыканстве.

Праўда, больш актыўная частка беларусоў ужо даўно гаварыла аб патрэбе нацыянальнай арганізацыі, але не знаходзіла спачуцьця ў большасьці.

Ў рэшце-рэшт актыўная частка беларусоў (якая складаецца прыблізна з 10 чалавек) узяла на сябе ініцыятыву арганізацыі Беларускага Нацыянальнага Гуртка. Але не па-

шанцавала: натарыюс не зацьцвердзіў подпісаў на ўставе дзеля таго, што не ўсе удзельнікі ініцыятыўнай групы аказаліся паўналетнімі. *У. Н.*

22—III—27 г.
Шаўлі.

*Ад рэдакцыі.* Вітаючы захады Шавельскіх беларусоў аб утварэньні гуртка, мы думаем, што рана-ці позна яны дасягнуць сваёй мэты. Патрэба гуртка ў Шавельшчыне тлумачыцца яшчэ тым, што як па Шавельскаму, так і па зьвязанаму з ім-Панявежскаму паветам параськідана даволі шмат беларусоў, і Шавельскі гурток мог-бы стацца цэнтрам іх арганізацыі і аб'еднаньня. Тое, што арганізацыя Шавельскага гуртка ў справе зацьверджаньня сустрэла некаторыя затрудненьні з'яўляецца лішнім доказам таму, што пасьпеля ўжо пара аб'еднаньня гуртkoў. У выпадку існаваньня, прэдугледжанага статутам гуртkoў, цэнтральнага камітэту, абхапліваючага ўсіх беларусоў Літвы, працэс арганізацыі і пашырэньне нацыянальнай сьвядомасьці пайшоў-бы больш хуткім тэмпам наперад. *Справа беларускага зьезду ў Літвѐ ўжо дасьпела* і местоваму грамадзянству трэба ўзяць ініцыятыву па яго скліканьні.

---

**Бэларускі кружкавы збор.** Як паведамляюць рэдакцыю—мейсцовые беларусы (ў зьвязку з тым, што, на акупаваных Польшчай беларуска-літоўскіх абшарах, польская ўлада робіць масавы гвалт над паняволенным жыхарствам) пачалі рабіць перад належнымі ўстановамі захады аб дазволе і ўлаштаваньні кружкавага збору на карысьць вязьняў, для абароны іх на судзе і для дапамогі сем'ям заарыштаваных.

*Рэдакцыя*, вітаючы думку ініцыятараў зьвертае іх увагу на тое, што даўно ўжо назрэла патрэба мець у Літве дабрачынную беларускую арганізацыю. Найлепшай формай такой арганізацыі, адпаведаючай патрэбам сучаснага моманту беларускага жыцьця, асабліва ў Віленшчыне было-б утварэньне адзелу *Беларускага Чырвонага Крыжу.* Гэтая думка паўставала яшчэ ў 1921 годзе. Было заложана таварыства, старшынёй якога быў абраны гр. Варонка. За ад'ездам апошняга ў Амэрыку гэта справа яксьці завяла. Трэба гэтую справу панавіць. Добра-б было старшынёю выбраць каго—колечы з паважаных літоўскіх, зьвязаных з беларусамі, дзеячоў. Есьць прыказка: „друг пазнаецца ў бядзе“,—было-б вельмі добра, каб літоўскае грамадзянства адгукнулася на сучасную беларускую бяду.

# Заходняя Беларусь.

Руйнаваньне акупантамі беларускай справы прадаўжаецца. Сістэматычныя вобыскі і арышты паасобных дзеячоў трываюць далей. Пасьля начнога вобыску ў вучыцелькі N. *) апошнюю знайшлі ўтопленай у рэцы. Прадаўжаецца дзікі ўціск беларускай прэсы, прыкладамз 36 нумароў, выдаваемую лацінікай часопісі „Naš Zvon“ пяць нумароў канфіскананы. У Вільні не хапае мейсца ў турмах. — Найбольш выдатных беларускіх дзеячоў, у тым ліку і пяцёх депутатаў Сойму перавязлі ў Пазнанскую турму, якая трымаецца па катаржнаму рэгламэнту. Семьі заарыштаваных падалі на імя Міністра Ўнутраных Спраў прозьбу, каб зьвярнуць арыштаваных у Вільню, але іх прозьба не была заўважана.

Беларускія прыватныя сярэднія школы таксама не мінулі „апекі“ акупантаў.—Беларуская гімназія ў Радашковічах, за выяўленьне спачуцьця арыштаваным беларускім дзеячам, дажывае свой апошні год. — Улада папярэдзіла, што ў наступным навучальным годзе канцэссія, на права праводзіць адукацію беларускай моладзі, Радашковічскай гімназіі дана не будзе. Ад Віленскай, таксама прыватнай, Беларускай гімназіі ўлада вымагае звольніць у наступным навучальным годзе пяць беларускіх вучыцялёў, у тым ліку і старшыню Беларус. Нацыянальнага Камітэту ў Вільні — Савіцкага. Гэтыя распараджаньні ўраду зьяўляюцца тым больш недарэчнымі, што беларускія гімназіі былі пазбаўлены ўсялякай урадовай дапамогі і не карысталіся правамі ўрадовых гімназій у Польшчы.

Прадаўжаецца эканамічны нажым на беларускае жыхарства, — ў некалькіх сяброў Беларускага Каапэрацыйнага Банку адабралі банкаўскія квітанцыйныя кніжкі, чым жадаюць навясьці паніку на беларусоў, каб затрымаць іх ад удзелу ў справе Беларускага Каапэрацыйнага Банку. У гэтых-жа тэрорызатарскіх мэтах польская ўрадовая прэса апошнімі днямі ізноў падае вестку аб тым, што партыя — Беларуска-Сялянска-Работніцкая Грамада, разам з Незалежніцкай Партыяй Хлопскай, абвешчаны нелегальнымі, што польская ўлада не мае права рабіць бо згодна Конституцыі ад палітычных партый у Польшчы не вымагаецца ні легалізацыі, ні рэгістрацыі ў урадовых установах.

---

*) Беларуская вучыцелька ў вёскі Тамальнае—Ніна Мамелюк.

Расправа, карыстаючыхся дзяржаўным апаратам, польскіх абшарнікоў-шавіністаў, выклікала абурэньне нават сярод польскага ўмеркаванага грамадзянства.—Польская Ліга Абароны Праў Чалавека, ў склад якой ваходзяць многа дэпутатаў Польскага Сойму, польскіх пісьменьнікаў і вучоных, выдала адозву — пратэст супраць арэштаў, якую адозву польская ўладу забараніла распаўсюджываць.

Польскія надужыцьці выклікалі стыхійнае абураньне сярод жыхарства *ўрадавай Беларусі*. Як па гарадох, так і па вёсках, па заводах, па школах, па вайсковых частках... адбыліся масавыя мітынгі, на якіх выносіліся, ганбячыя польскіх шавіністаў — прыгнетацеляў, рэзалюціі і выказывалася спачуцьцё беларускаму абездоленаму і паняволенаму акупантамі жыхарству, яго заарыштаваным павадыром беларускага руху і афіцыяльным прадстаўнікам беларусаў у Варшаўскім Сойме. Як па гарадох, так і па вёсках праводзіцца сбор ахвяр (як грашмі, так і збожам) на карысьць арыштаваных, на падмогу іх семьям і агулам, на падмогу беларускаму збяднеламу жыхарству Віленшчыны і Горадзеншчыны, якое, дзякуючы недароду ў апошнім годзе і ўціску акупантаў, вытрымлівае вялікую нужду.

Ў абарону беларускага жыхарства—выступіла і **Французская Ліга Абароны Праў Чалавека**. На спецыяльна прызначаным паседжаньні, пад старшынствам Прэзідэнту Лігі (ён-жа старшыня Французскага Парляменту) Пуассона (на гэтым жа паседжаньні прыймаў удзел і сябра Польскага Сойму Сахоцкій) быў высказаны шэраг прамоў, рэзка крытыкуючых польскую фашыстскую ўладу, карыстаючуюся больш агіднымі сродкамі і діскрэдытаваўшую справу адраджонай Польшчы, ў вачах заходня-эропэйскага грамадзянтсва, нават больш чым, у свой час, царскій урад—Расею.

На сходзе была прынята пастанова дамагацца звальненьня с польскіх турм палітычных вязьняў. Францускі пратэст акурат саўпаў с прыездам да Парыжу дэлегацыі Польскага Сойму. На вакзале яна была спаткана дэманстрантамі, разьвесіўшымі плакаты з дамаганьнямі зволіць з пад арэшту пяцёх заарыштаваных дэпутатаў Варшаўскага Сойму.

Заарыштаваныя беларускія паслы Польскага Сойму знаходзяцца ў Вронках у турме для цяжкіх праступнікаў. Беларускія дэпутаты і з імі яшчэ 34 заарыштаваных абвесьцілі галадоўку ў знак пратэсту за бесчалавечнае абходжаньне польскай улады.

# Сьмерць Латвійскага Прэзыдэнта.

. . сакавіка г. г. памер Прэзыдэнт Латвійскай Рэспублікі *Ян Чакстэ.* Нябошчык быў адным з актыўнейшых дзеячоў Латвійскага адраджэньня. Ян Чакстэ карыстаўся вялікім уплызам сярод грамадзянства. Яго звычайна называлі Бацька Чакстэ.

---

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ У ЛАТВІІ.

## Новы дырэктар Беларускага адзелу ў Латвіі.

Латвійскій міністр асьветы, вядомы песьняр Ян Райніс зацьвердзіў на пасаду кіраўніка Беларускага адзелу, кандыдата беларускіх арганізацый *У. У. Пігулеўскага.*

Рэдакцыя жадае посьпеху яго працы ў справе ўздыму нацыянальнай сьвядамосьці і задавальненьня нацыянальна-культурных патрэб тамашняга беларускага жыхарства.

### Дума Культурнага Фонду дала дапамогу беларускім школам.

На сходзе думы Культурнага Фонду 20 сьнежная м. г. пастаноўлена асыгнаваць на навучальныя дапамогі для беларускіх школ гэткія суммы: на 41 пачатковую беларускую школу адпушчана 1040 латаў, або 52 000 рублёў і на беларускую гімназію—416 латаў, або 20.800 рублёў.

### Латвійскі Культурны Фонд і Інстытут Беларускай Культуры.

На сходзе 20 сьнежня, дума Латвійскага Культурнага Фонду ўхваліла спрэзэнтаваць Менскаму Інстытуту Беларускай Культуры, які хутка ператворыцца ў Беларускую Акадэміы Навук, латыскі слоўнік Мюленбаха-Энзэліня.

Пастанова гэта зьяўляецца вынікамі паездкі на Беларускую Акадэмічную Канфэрэнцыю прадстаўнікоў ад Латвіі. У часе гэтае паездкі дэлегаты з Латвіі мелі магчымасьць пазнаёміцца з вялікай нацыянальна-культурнай беларускай працай, якая ідзе ў Менску, а таксама пераканаліся і ў тым, што Радавая Беларусь шмат робіць для латыскай меншасьці ў Беларусі, дзе латышам дадзена не толькі нацыянальна-куль-

турная, але і нацыянальна-тэрыторыяльная аўтаномія. Інстытут Беларускай Культуры стварыў пры сабе навет спэцыяльны Латыскі Аддзел для навуковае распрацоўкі пытаньняў латыскае культуры.

## Я. Райніс аб беларускім тэатур.

У чэцьвер 9 снежаня м. г. ў Рызе ў салі Народнага Дому на Дэрпатскай вуліцы ўвечары адбылася лекцыя вядомага латвійскага паэты Я. Райніса *) на тэму: „Беларускі тэатр". На лекцыі былі прысутны латыскія артысты і грамадзяне, якіх цікавіць справа беларускага тэатру, а таксама значны лік беларусоў, стала пражываючых у Рызе.

Я. Райніс, у часе побыту свайго на Беларускай Акадэмічнай Канфэрэнцыі ў Менску, меў магчымасьць асабіста пазнаёміцца і з лепшымі беларускімі пастаноўкамі і з аўторамі п'ес, і з рэжысурай, і з выдатнейшымі артыстамі беларускіх тэатраў у Менску і Віцебску.

Сваю цікавую лекцыю, якая заняла больш як 2 гадзіны часу, гр. Я Райніс зложыў з гэткіх частак:

Агульныя весткі аб беларусах, аб Савецкай Беларусі і беларускай меншасьці ў Латвіі;

кароткая гісторыя разьвіцьця беларускага тэатру;

1-шы Дзяржаўны Беларускі Тэатр у Менску, — малая сцэна;

2-гі Дзяржаўны Беларускі Тэатр у Віцэбску:

Вандроўны Беларускі Тэатр Галубка;
выдатнейшыя беларускія аўторы, рэжысёры і пьесы;
Жыдоўскі Тэатр у Менску;
матэрыяльнае становішча тэатраў і артыстаў.

Не можна не зьдзівіцца тэй вычэрпываючай паўнаце, з якою здолеў паважаны пісьменнік-лектар пазнаёміцца сам ахаціць сучаснае становішча ўсіх беларускіх тэатраў і намаляваць яго слухачам. Міма ягонага вока не прайшла ні водная цікавая рыска. Ў гэтым уменьні назіраць і разьбірацца ў справе адразу адчуваецца знаўца тэатральнай справы і вялікі мастак.

---

*) Сучасны Латвійскі Міністр Асьветы.

Я. Райніс прагледзяў некалькі беларускіх п'есаў і з іх найбольш яму падабаліся тры:

„Кастусь Каліноўскі“—рэвалюцыйная п'еса з часоў паўстаньня 1863 году, напісаная і пастаноўленаая рэжысёрам Менскага Дзяржаўнага Беларускага Тэатру гр. Міровічам; п'еса малюе беларуска-рэвалюцыйную працу Кастуся Каліноўскага, які змагаўся не толькі з расейскай уладай за незалежнасьць Беларусі ад Маскоўшчыны, але і з польскім панскім равалюцыйным „жондам“, які не хацеў даць сялянству беларускаму зямлі.

„Каваль Ваявода.—п'еса з часаў прыгону, таксама напісаная і пастаўленая гр. Міровічам, які дае ў ёй разуменьне таго, якою выяўляла сабе прыгоннае сялянства ідэёвую ўладу, і

„Пінская Шляхта“ — фарс-водэвіль, старая, але надзвычайна цікавая этнаграфічная п'еса, напісаная шэсьцьдзесят гадоў таму назад, Дуніным-Марцінкевічам, яшчэ ў 1866 годзе; гэтая цікавая п'еса ніколі не зробіцца старою і заўсёды будзе мець посьпех на беларускай сцэне, а таксама і ў перакладах на чужыя мовы.

Разабраўшы зьмест і выкананьне вышэйпералічаных, а таксама і некаторых іншых, з бачаных ім п'есаў, Я. Райніс адзначыў, што разьвіцьцё беларускага тэатру за 5 гадоў працы пасьпела прайсьці ўсе тыя этапы, праз якія латыскі тэатр прайшоў на працягу сотні гадоў. Мастацкаю гульнёй артыстаў Я. Райніс быў надзвычайна прыемна зьдзіўлены, бо ніколі не думаў, што беларускі тэатр пасьпеў ужо стануць на гэткую мастацкую вышыню.

Апавядаючы аб аўторах п'ес і рэжысёрах, Я. Райніс асабліва прыхільна адазваўся аб гр. Міровічу, адмеціўшы яго як выдатнейшую і вельмі здольную беларускую мастацкую сілу.

Ўспомніўшы аб беларускіх паэтах, Я Райніс паведаміў, што ўся Беларусь сьвяткуе зараз 20-цігадовы юбілей выдатнага беларускага паэта Якуба Коласа, і запрапанаваў аўдыторыі паслаць гэтаму паэту, ад імя ўсіх прысутных у салі, сяброўскае прывітаньне. Саля дружнымі і гучнымі, доўга не сьціхаўшымі воплескамі, спаткала гэтую прапазыцыю *).

---

*) Перадрук з Голаса „Беларуса“.

# Дацэнт Блессэ аб Радавай Беларусі.

Дацэнт Лавійскага Ўнівэрсытэту Е. Блессэ, які разам з гр. гр. Я. Райнісам, К Езавітавым і Ў. Пігулеўскім, прыймаў удзел у Беларускай Акадэмічнай Канфэрэнцыі, зьмясьціў у латыскай правай газэце „Latvis“ (№ № 1544, 1545, 1546 і 1547) вялікі артыкул „Уражаньні аб Беларусі“,

Апавядаючы аб працы Канфэрэнцыі Е. Блессэ вызнае, што праца яе праходзіла сыстэматычна, выклікала да сябе вялікае зацікаўленьне беларускага грамадзянства, якое заўсёды напаўняла вялікую салю пленарных сходаў Канфэрэнцыі, і дала карысныя ўклады ў беларускую культуру.

Надзіраючы за нацыянальнаю беларускаю працаю, якая праводзіцца ў Менску, Е. Блессэ сьцвярджае, што яна стаіць на моцным грунце:

„Беларускія працаўнікі захоплены нацыянальным рухам. Таксама і іхнія камуністы падкрэсьліваюць у сваіх прамовах неабходнасьць духоўнага і культурнаго адраджэньня, матывуючы гэта, зразумела, сваімі камуністычнымі імкненьнямі і мэтамі. А таму, не гледзячы на даволі цяжкае эканамічнае становішча, беларусы выдаткуюць шмат грошай на ўздым народнае асьветы і на ўзмацненьне і паглыбленьне беларускае культуры“.

У нядзелю 12 сьнежня м. г. ў аўдыторыі філёлёгічнага аддзяленьня Латвійскага Унівэрсытэту Дацэнт Блессэ прачытаў для студэнтаў-філёлёгаў лекцыю на тэму: „Беларуская мова“.

Лектар пачаў з таго, што прасіў аўдыторыю выбачыць за малую падгатоўку да лекцыі, аднак гэтыя выбачэньні аказаліся зусім дарэмнымі, бо ў лектара знайшлося шмат цікавага матарыялу, лекцыя выйшла вельмі зьместоўнай, усіх зацікавіла і заняла больш двух гадзінаў

Лекцыя складалася з гэткых частак:

тэрыторыя пашырэньня беларускай мовы (па Карскаму),

гісторыя ўтварэньня беларускага народу з старадаўніх племёнаў: крывічоў, радзімічоў і дрыгвічоў; (тутака прыемна было пачуць аб тым, што гр. Блессэ ўжо не лічыць больш

крывічоў вялікарусамі, як гэта ён пісаў у 1924 годзе ў „Izglitibas Ministrijas Menešraksta“);

галоўнэйшыя дасьледаваньні беларускай мовы;
сучасныя дыялекты беларускай мовы;
лексікальны склад;
фонэтыка;
морфолёгія;
дасьледчая праца над баларускай мовай у Інстытуце Беларускай Культуры ((Інбелкульт) ў Менску.

Дзеля адсутнасьці мейсца не маем магчымасьці падрабязней спыніцца на паасобных мейсцох лекцыі, падкрэсьлім толькі тое, што лекцыя гэта зьяўляецца *першаю лекцыяй аб беларускай мове ў Латвійскім Унівэрсытэце* і, як вельмі паважным зьместам сваім, так і дужа прыхільным сваім тонам, безумоўна кладзе першыя падваліны навуковага вывучэньня беларускай мовы ў сьценах Латвійскага Унівэрсытэту.

З гэтага боку лекцыя гэта мае для нас беларусоў, а таксама і для ідэі ўзаемнага беларуска-латыскага дасьледваньня і разуменьня, вельмі важнае значаньне *).

---

# Што чуваць у сьвеце.

## Кангрэс паняволеных народаў.

У Брусэлі ў лютым м-цы г. г. адбыўся кангрэс паняволеных народаў. На ём былі прысутнымі дэлегаты Індыі, Кітаю, Афрыканскіх калёній і інш.

Гэтыя народы знайходзяцца ў палітічнай залежнасьці і эканамічнай эксплёатацыі, дзякуючы чаму яны не могуць палепшыць свой дабрабыт і давясьці да належнага стопня сваю нацыянальную культуру. Цяперака гэтыя народы (ў многа разоў перавышаючыя лік сваіх гнабіцеляў) парашылі змагацца за сваю долю, за роўныя правы са ўсімі народамі сьвету. Арганізацыі працоўных розных краін падтрымліваюць гэты рух паняволеных народаў, спадзяючыся разам з імі змагацца супраць сваёй буржуазіі.

---

*) Перадрук з „Голаса Беларуса“.

 

Іх вызваленьне аслабіла-б моц буржуазіі і стварыла-б лягчэйшыя варункі для змаганьня працоўных за свае сацыяльныя правы.

Беларусы Літвы паслалі Кангрэсу Паняволеных Народаў у Брусэлі ніжэйпададзеную тэлеграму:

„Вітаем Кангрэс паняволеных народаў, якія пастанавілі супольнымі сіламі дабівацца асягненьня сваіх замацаваных сучаснай эпохай сувэрэнных правоў.

Ваша праца знойдзе гарачы актыўны водгук сярод беларускіх масаў.

Просім Кангрэс выказаць свой пратэст з прычыны масавых арыштаў беларускіх нацыянальных грамадзкіх дзеячоў пад Польшчай."

---

**Кітайская справа** заняла становішча, якім цяперыка цікавіцца ўвесь сьвет. Войскі рэвалюцыйнага Кантону разьбіваюць па чарзе аднаго свайго ворага за другім. Кантонцы ўжо занялі найбольш важныя як прамысловыя, так і гарговыя гарады: Ханькоў, Шанхай, Нанкін ужо падпалі пад іх уладу. Цэнтральны пекінскі ўрад дэмаралізован, - большасьць міністраў адмовілася праводзіць урадовую працу. Паседжаньні вядуць толькі два міністры.

Але ня гэта ўжо зьяўляецца найбольш важным мамантам кітайскай справы: кантонцы пачынаюць выкідаць чужынцаў з захопленых імі канцэсій, дзе чужынцы адчувалі сябе, як у сваёй хаце; мала таго, што мелі сваё ўпраўленьне, свой суд, — яны нават не дазвалялі на гэтыя канцэсіі заходзіць кітайцам. — Нечага сказаць—добрыя госьці. Найбольшы закалот стаўся ў Нанкіне, дзе ангельцы, разам з амэрыканцамі, каб (як яны кажуць), „даць магчымасьць сваім грамадзянам больш лагодна выйсьці з гораду", адкрылі па гораду стральбу з цяжолых марскіх гармат, перабілі каля 7000 мірнага кітайскага жыхарства. Словам церабілі людзей, як кустарнік у лесе, каб праехаць. Такі нечуваны бандыцкі напад выклікаў страшэннае абурэньне ў ваўсім Кітаю.—Трэба чакаць новага закалоту на яго абшарах. — Не выключана магчымасьць, што кітайскія непаразуменьні пярэйдуць ў новы ўсесьветны закалот.

---

Дазволена вайсковай цэнзурай. Leista karo cenzūra.
Рэдактар-выдавец Е. ГАЙДУКЕВІЧ. Redaktorius-leidėjas E. GAIDUKEVIČIUS.